ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№8 (65) жнівень 2016 год
CATHOLICNEWS.BY

# У Негарэлым асвечаны новы касцёл



Храм асвяціў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі. Падзея адбылася 6 жніўня на свята Перамянення Пана.

Стар. 4–5

## Беларускі святар прайшоў 800 кіламетраў шляхам святога Якуба



Стар. 8

## Зачем нужны иконы для свадьбы?

Читайте на странице 13

## У Оршы прайшла II Парафіяда Віцебскай дыяцэзіі



Стар. 3

## “Моладзь для Хрыста”

Гэта адна з груп маладых людзей з Віцебскай дыяцэзіі, якая ўдзельнічала ў Сусветных днях моладзі ў Кракаве




Стар. 6–7

# Пра Эрдагана, Еўраньюс і гісторыю Касцёла ў Беларусі

**Гледзячы нядаўна англамоўную версію Еўраньюс, заўважыў бягучы радок: "Erdogan has issued a mea culpa for his former alliance with the Gulenist movement".**

**кс. Віктар Місевіч**

Сэнс сказанага аўтаматычна перакладўся ў галаве. Прэзідэнт Эрдаган выбачыўся перад Богам і народам за тое, што не запабег перавароту. Навіны пабеглі далей. Але праз некалькі секунд я міжвольна вярнуўся да папярэдняга радка. У чым справа? Што тут не так?

Тыя з вас, дарагія чытачы, хто хоць крыху знаёмы з лацінскай мовай і абрадам св. Імшы на ёй, ведаюць, што словы mea culpa зусім не англійскія. Гэта частка рахунку сумлення на самым пачатку Імшы на лаціне. "Мая віна, мая віна, мая вялікая віна..." Так гучаць словы гэтай малітвы па-беларуску.

Што ж атрымліваецца? Рэдактары найбуйнейшага вяшчальнага канала ў Еўропе палічылі мэтазгодным ужыць менавіта такую фармулёўку ў рэпартажы пра турэцкага прэзідэнта. Для цікавасці я параўнаў франкамоўную версію рэпартажа – тое самае. Напісана mea culpa. Нямецкі варыянт – mea culpa, грэцкі – таксама. Важна зазначыць, што ні франкамоўнае, ні англамоўнае грамадствы на сённяшні дзень не з'яўляюцца ў сваёй большасці каталіцкімі. Вялікабрытанія – пераважна пратэстанцкая, Францыя – секулярная, ужо не кажучы пра Грэцыю, дзе праваслаўе з'яўляецца дзяржаўнай канфесіяй. Аднак аўтары матэрыяла пра турэцкага прэзідэнта і спробу перавароту ў Турцыі палічылі, што словы mea culpa зразумее шараговы глядач Еўропы.

Хрысціянскія карані, шэдэўры сакральнага мастацтва, каталіцкая культурная спадчына – неад'емная частка Еўропы. Гэта бачна нават у такіх дробязях, як два лацінскія словы ў штодзённым выпуску навін канала Еўраньюс. Але, разам з тым, хочацца задаць пытанне і прадстаўнікам беларускага грамадства, гэта значыць нам самім.

У якім стане нашыя хрысціянскія карані? Ці не пагражае нам сёння, што ўспамін пра катэхізіс, Імшу і Біблію праз нейкі час стане толькі выпадковым? Так, пераследы з савецкага мінулага істотна падарвалі Каталіцкі Касцёл, бо імкнуліся зусім знішчыць гэтыя карані. Тое самае і з праваслаўем. Але ў якім стане яны сёння? Ці яны мяне наогул цікавяць? Такія пытанні могуць прагучаць на адрас вернікаў. Але яшчэ больш сур'ёзны іспыт чакае тых, на каго ўскладзеная функцыя навучання, асвячэння і кіравання – нас, святароў і біскупаў. Адкуль вернікам даведацца пра свае карані, як не ад сваіх пастыраў? Дзе яны змогуць прачытаць пра гісторыю Каталіцкага Касцёла, як не ў добрай каталіцкай кніжцы? Так і хочацца сёння ўсклікнуць: каталіцкія гісторыкі, аусуу, дзе вы? Дайце мне падручнік па гісторыі Касцёла ў Беларусі! Хай гэта будзе не акадэмічнае выданне. Няхай навукова-папулярнае, але аб'ектыўнае, пазбаўленае савецкіх і любых іншых фальшывых міфаў. Гісторыя Касцёла ў Беларусі надзвычай цікавая, багатая і няпростая. Хто, як не мы, самі павінны пра яе расказаць людзям?

І тады, можа, адыдуць у нябыт дыялогі ў выканкаме пры запрашэнні на працу святара-замежніка з езуіцкага ордэна кшталту: "Мы хочам запрасіць айца-езуіта да нас у дыяцэзію". Адказ чыноўніка: "Ды вы што? Ён жа езуіт!!!"

Таму, сябры, чакаю каталіцкіх Арловых.



Каменны крыж і Касцёл св. Яна Хрысціцеля ў Камаях (Віцебшчына)



# Будслаўскі фэст унесены ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Беларусі

**Унесены змены ў спісы гісторыка-культурных каштоўнасцяў. Адпаведнае рашэнне змешчана ў пастанове Савета Міністраў ад 2 жніўня 2016 г., № 607.**

Статус і катэгорыя гісторыка-культурнай каштоўнасці Рэспублікі Беларусь нададзены 93 матэрыяльным аб'ектам (цэрквам, касцёлам, могілкам, курганам і г.д.) і 35 нематэрыяльным праяўленням творчасці чалавека.

Будслаўскі фэст таксама ўнесены ў спіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў Рэспублікі Беларусь.

У пералік увайшлі масленічная абрадавая гульня «Пахаванне дзеда» ў Гарадоцкім раёне і традыцыя вырабу валёнак у Мёрскім раёне Віцебскай вобласці, народная тэкстыльная традыцыя в. Неглюбка і шэрагу населеных пунктаў Неглюбскага сельсавета Веткаўскага раёна Гомельскай вобласці, творчасць майстра па вырабе музычных інструментаў Мар'яна Скрамблевіча з аграгарадка Адэльск Гродзенскага раёна і інш.

У пастанове ўлічаны прапановы мясцовых органаў кіравання, заключэнні спецыялістаў Інстытута гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Пастанова ўступае ў сілу з дня яе афіцыйнага апублікавання.

*pravo.by*

# Выстава ў Новалукомлі

**Хвала Хрысту!**

***Ліпень выдаўся вельмі шчодры на падзеі, якія адбываліся ў нашай парафіі Святой Марыі Магдалены ў Новалукомлі.***

16 ліпеня ў свята Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармэль пяцёра дзетак упершыню прыступіла да споведзі. Гэта значыць, што Маці Божая Шкаплерная прыняла іх пад сваю апеку, атуліла сваім плашчом. Да гэтай падзеі іх з вялікай любоўю і пяшчотай рыхтаваў наш пробашч ксёндз Аляксандр. А якой вялікай радасцю і шчасцем свяціліся вочы гэтых дзетак, калі падчас святой Імшы ксёндз Аляксандр упершыню ўдзяліў ім Святую Камунію! Гэтую радасць з дзецьмі падзялілі бацькі, хросныя, парафіяне, госці, нават замежныя.

Другая значная падзея адбылася на свята Святой Марыі Магдалены. 22 ліпеня а восьмай гадзіне распачалося саракагадзіннае набажэнства з выстаўленнем Найсвяцейшага Сакраманту, якое праводзіў наш былы пробашч ксёндз Юрый Жаўняровіч. Набажэнства доўжылася да 14:00 24 ліпеня. А чатырнаццатай гадзіне пачалася ўрачыстая святая Імша, якую цэлебраваў дэкан Лепельскага дэканата ксёндз Уладзімір Заянчкоўскі. На гэтай урачыстасці прысутнічалі госці з Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, з г. Крупкі, з Мінска. Было радасна на душы ад таго, што Пан Бог пачуў нашыя малітвы і просьбы, з якімі мы звярталіся кожную трэцюю нядзелю месяца да нашай апякункі. Прасілі пра заступніцтва перад Панам Богам за нашыя сем'і, за нашу парафію, за наш горад, дзе веры раней зусім не было. Усе перажываюць вялікую радасць ад таго, што Папа Рымскі абвясціў свята Святой Марыі Магдалены ва ўсім Каталіцкім Касцёле.

І яшчэ адна неардынарная падзея адбылася ў гэтыя дні ў нашай парафіі. Па ініцыятыве ксяндза Аляксандра адкрылася выстава духоўна-рэлігійных экспанатаў пад назвай «Касцёл учора і сёння». Выставу складаюць вельмі старажытныя экспанаты, пачынаючы з 17 стагоддзя. Гэта арнаты ручной работы, асобнікі Бібліі на розных мовах, малітоўнікі, а таксама дакументы, з якімі вернікі звярталіся ў Вярхоўны Савет СССР з просьбай аб памілаванні сваіх святароў, фотаздымкі святароў і інш.

За ўсё, што робіцца ў нашай парафіі, мы, парафіяне, шчыра дзякуем нашаму пробашчу Аляксандру, а таксама дзякуем за клопат, за малітву, за чулае сэрца. І дзякуем Божаму Провіду, што даслаў нам такога руплівага, таленавітага святара!

Дзякуем ксяндзу Юрыю Жаўняровічу, што прыязджае да нас у госці, моліцца разам з намі, за яго прыгожыя змястоўныя казанні.

Дзякуем дэкану нашага дэканата ксяндзу Уладзіміру Заянчкоўскаму за правядзенне ўрачыстай святой Імшы, за навуку.

Дзякуем усім святарам, якія прыязджаюць да нас. Ад іх казанняў, спеваў, навучання, проста размовы з намі, парафіянамі, парафіяльнае жыццё духоўна ўзмацняецца, радасць перапаўняе сэрцы.

*Вернікі з парафіі Святой Марыі Магдалены, г. Новалукомль*



# Адпачынак на моры для пераможцаў: у Оршы прайшла II Парафіяда Віцебскай дыяцэзіі



**З 9 па 11 жніўня ў Оршы адбылася парафіяда для дзяцей і моладзі Віцебскай дыяцэзіі. Удзел у ёй прынялі 4 каманды: з Лучая, Глыбокага, Пагошчы і Паставаў.**

■ **Ірына Апяцёнак**, *тэкст і фота*

Першы дзень распачаўся святой Імшой, якую ўзначаліў біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. У сваёй гаміліі ардынарый прамовіў пра неабходнасць малітвы і трывання на працягу парафіяды. “Калі Бог дае блаславенне, з гэтага атрымліваецца шэдэўр, таму я жадаю вам поспехаў і абяцаю малітву за вас!” – сказаў пастыр. Вечарам таленавітыя падлеткі паказвалі свае здольнасці ў намінацыі “Тэатр”. Журы ацэньвала хатнія заданні ўдзельнікаў: візітную картку, танец, спеў і інсцэніроўку.

На другі дзень моладзь накіравалася да спартыўнага комплексу, дзе адбыліся спаборніцтвы па валейболе, футболе, шашках, настольным тэнісе, плаванні і стральбе. Цікава, што за глыбоцкую парафію сярод хлапчукоў у футбол гулялі і дзве дзяўчынкі. Увечары 10 удзельнікаў парафіяды адказвалі на пытанні тэсту “Св. Ян Павел II – Апостал Божай Міласэрнасці”, а пасля таленавітыя прадстаўнікі парафій малявалі на зададзеную тэматыку: “Што значыць для вас Касцёл?” З астатнімі падлеткамі валанцёры з Оршы правялі гульню “Слімак” – трэба было шукаць карткі з пытаннямі па тэрыторыі каля касцёла.

На працягу двух дзён айцец Гжэгаж Ксёнжэк праводзіў канферэнцыі на тэму “Любоў. Грэх. Збаўленне”. Сваімі сведчаннямі прабывання Хрыста ў яго жыцці ён змог зацікавіць моладзь. Госпад уратаваў жыццё айца Гжэгажа. Аднойчы ён спазніўся на трамвай, які пазней трапіў у аварыю. “Бог не згаджаецца з грахом, але Ён любіць грэшніка. Бог любіць цябе не за нешта. Бог проста цябе любіць”, – такімі словамі скончыў сваю прамову айцец.

У апошні дзень арганізатары падвялі вынікі Парафіяды-2016. У спартыўных спаборніцтвах перамогу атрымала моладзь з Лучая. Па выніках выступаў у намінацыі «Спорт-тэатр-святыня» былі вызначаны тры пераможцы. Таксама пры падвядзенні вынікаў улічвалася паводзіны ўдзельнікаў парафіяды ў святыні, адносіны з іншымі людзьмі. Таму месцы размеркаваліся наступным чынам:

1 месца – Глыбокае;
2 месца – Пагошча;
3 месца – Паставы.

Арганізатар парафіяды ў Оршы кс. Валерый Орсік падзяліўся з “Каталіцкім Веснікам” сваімі ўражаннямі ад мерапрыемства. “Моладзь глыбоцкай парафіі – прыклад сапраўдных хрысціянаў! Вельмі радуюся, што менавіта яны атрымалі першае месца. Заўважна, што яны маюць не толькі таленты, але ўмеюць выбудоўваць сяброўскія адносіны з іншымі падлеткамі. Хацелася б адзначыць цудоўныя паводзіны дзетак з Пагошчы.

Вядома, як арганізатар выказваю шчырую ўдзячнасць ксяндзам і клерыкам, якія былі апекунамі моладзі на працягу трох дзён, а таксама 15-ці дабраахвотнікам”, – сказаў ксёндз Валерый.

Пераможцы II Парафіяды Віцебскайдыяцэзііадправяцца ў 2017 годзе на Міжнародную парафіяду ў Варшаву, а пасля іх чакае двухтыднёвы адпачынак на моры.



## Як лепш сказаць па-беларуску: “ГЭТА МАЯ ДАЧА” ці “ГЭТА МАЁ ЛЕЦІШЧА”?

**Назоўнікі *дача* і *лецішча* паралельна выкарыстоўваюцца ў сучаснай мове, але з рознай частотнасцю. Як выглядае сітуацыя з гэтым на практыцы, паспрабуем разабрацца.**

■ **Юрась Бабіч**, *кандыдат філалагічных навук*

Слоўнікі 20-ых гадоў XX ст. падавалі слова **дача** толькі са значэннем апрадмечанага дзеяння – *даванне*, у рускай мове адпаведнік *даяние*. У сэнсе *даванне грошай, даванне харчоў* і г.д. На хвалі нацыянальнага адраджэння ў пачатку 90-ых гадоў XX стагоддзя замест слова **дача** (дом за горадам) стала імкліва пашырацца лексема **лецішча**. Яна матывуецца словамі *лета* і *летаваць* (жыць дзе-небудзь летам, заставацца дзе-небудзь на лета” (“Тлумачальны слоўнік беларускай мовы”, т. 3, с. 38). Назоўнік **лецішча**, як адзначае прафесар П. Сцяцко, утвораны якраз ад дзеяслова *летаваць* з дапамогай суфікса *-ішч-а*: *лет(ава)ць* – **лецішча**. Такія ўтварэнні абазначаюць месца (збудаванне, памяшканне), дзе адбываецца адпаведнае дзеянне (П. Сцяцко. Культура мовы. – Мінск, 2002. – С. 272).

Названы назоўнік выкарыстоўваецца і ў мове мастацкай літаратуры, і ў сродках масавай інфармацыі. “Слоўнік беларускай мовы” (Мінск, 2012) – акадэмічнае выданне – фіксуе названую лексему таксама (с. 371), а гэта сведчыць пра прызнанне літаратурнага статусу згаданага назоўніка. Зрэшты, у публіцыстычным дыкурсе слова **лецішча** ўжываецца рэгулярна ўжо больш за два дзясяткі гадоў. Прывядзём колькі прыкладаў: *Побач з* ***лецішчам*** *– возера, ручай, лес хваёвы* (Чырвоная змена, 10.11.2010); *У Севастопалі нам не далі здымаць расійскую ваенную базу і* ***лецішча*** *Януковіча* (Звязда, 14.05.2011); *Неяк на* ***лецішчы*** *ў знаёмых мы вялі гаворку аб гісторыі Беларусі* (Краязнаўчая газета, №40, кастрычнік, 2012); *Жыць стала сюды не едуць. Летняе* ***лецішча*** *– і не больш за тое* (Наша ніва, 24.10.2012); *Раней ... я не магла працаваць на* ***лецішчы*** (Звязда, 28.07.2016).

Як бачым, слова **лецішча** прадуктыўна выкарыстоўваецца ў самых розных перыядычных выданнях. Імкнучыся да павышэння культуры і вуснага, і пісьмовага маўлення, варта аддаваць перавагу менавіта назоўніку **лецішча** і не захапляцца чужым для нашай мовы словам *дача*. Па-беларуску сапраўды прыгожа гучаць фразы кшталту *Я буду* ***лецішча***; *Гэта мае суседзі па* ***лецішчы***; *Гэта маё* ***лецішча***.

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае “Каталіцкі Веснік” сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Віталь Рагоўскі** *(Браслаў)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **вернікі з парафіі св. Юзафа ў Парыжы** *(Пастаўскі р-н)*, **Наталля Гаўрыльчык** *(Падсвілле)*, **Валерый Ракуцкі** *(Браслаў)*, **вернікі з Дуброўна**, **Валянціна Віткоўская** *(Лынтупы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы “Каталіцкаму Весніку” сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:
***Мсевіч Віктар Мар’янавіч***
*вул. Савецкая, 1*
*211800 г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя*
***“Каталіцкага Весніка”***

# Марыя Качаноўская з Негарэлага: Пан Бог захацеў,



**Арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч асвяціў новы касцёл у вёсцы Негарэлае Дзяржынскага раёна. Гэта адбылося ў суботу, 6 жніўня, падчас свята Перамянення Пана. Дарэчы, у гэты дзень парафія ў Негарэлым, якая носіць імя Перамянення Пана, адзначала сваё 10-годдзе.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

### Спачатку была канцэртная праграма

Святочны настрой у Негарэлым адчуваўся ўжо з самай раніцы: з Дома культуры даносілася музыка, каля касцёла завіхалася некалькі жанчын, якія ўпрыгожвалі ўваход у храм кветкамі. Праграма святочных мерапрыемстваў у Негарэлым была па-свойму адметнай. Распачалася яна з канцэрту ў Доме культуры, а ўжо пасля была святая Імша з асвячэннем касцёла. Хаця ў праграмах большыні фэстаў бывае наадварот: спачатку адбываецца Імша, а потым канцэрт.

Урачыстасць у Доме культуры распачалася са спеву гімна "Магутны Божа" ў выкананні саліста арт-групы "Беларусы" Валерыя Шмата. Усе прысутныя слухалі яго стоячы. Затым вядоўцы мерапрыемства Аліна і Максім Угорычы запрасілі на сцэну Валянціна Грыба, кіраўніка будаўнічай брыгады, якая ўзводзіла сцены святыні. Ён паклаў першы букецік кветак у агульны святочны букет, які пачалі збіраць тут, на сцэне. Звяртаючыся да ўдзельнікаў святкавання, Валянцін Грыб сказаў:

– Пачуццё радасці запаўняе грудзі, душу! Я рады, што ва ўсіх нас сёння свята. Я шчыра віншую вас! Прыемна, што вы нас памятаеце, што мы пакінулі хаця б маленькі след у вашым жыцці.

Затым на сцэну паднялася сям'я Тацццяны і Мікалая Міляшкевічаў. Яны таксама паклалі свае кветкі ў агульны букет і ўсёй сям'ёй падарылі прысутным святочны настрой, выканаўшы песню і танец.

Далей вядоўцы запрасілі на сцэну ўсіх дзяцей парафіі, якія ў якасці падарунка паднеслі гледачам свае шчырыя ўсмешкі. Вядома ж, яны таксама паклалі кветкі ў агульны святочны букет. Каб не паўтарацца, трэба адзначыць, што свае кветкі туды ўкладалі ўсе госці сцэны, і ў выніку напрыканцы першай часткі атрымаўся вялікі прыгожы букет. Ідэю збірання такога букету можна патлумачыць тым, што невялікі ўклад чалавека ў агульную справу ў выніку робіць яе вялікай і значнай.

Пасля дзяцей на сцэну быў запрошаны пробашч парафіі ксёндз Дзяніс Шастаковіч MSF. Ён блаславіў вернікаў, адзначыўшы, што шмат гаварыць не будзе, бо галоўная частка мерапрыемства яшчэ наперадзе. Затым выйшаў ганаровы госць свята – спявак Валерый Шмат. Ён выканаў улюбёную песню святога Яна Паўла II "Езус ішоў узбярэжжам".

Перад тым, як заспяваць, артыст звярнуўся да гледачоў, заклікаўшы іх годна несці свой крыж па жыцці:

– Што значыць "крыж"? Гэта неабавязкова нейкія вялікія справы. Гэта штодзённы клопат мужа, жонкі пра сваіх дзяцей. Захаваць вернасць, любоў, павагу, пражыць жыццё і застацца чалавекам – вось наш самы маленькі крыж. А Святы Айцец Ян Павел II заклікае нас, каб мы заўсёды пра гэта памяталі.

Далей настала чарга парафіяльнага хору, які сваім спевам прывітаў удзельнікаў святочнага мерапрыемства.

Потым на сцэну запрасілі прадстаўнікоў мясцовай улады: кіраўніка ідэалагічнага аддзела Дзяржынскага райвыканкама Наталлю Сінюковіч, супрацоўніка гэтага ж аддзела Сяргея Мінько, старшыню сельсавета ў Негарэлым Васіля Гаркаўчука. Чыноўнікі таксама зрабілі свой унёсак у агульны букет, паклаўшы ў яго і свае кветкі.

Напачатку Наталля Сінюковіч зачытала прывітальны ліст ад кіраўніка Дзяржынскага раёна Мікалая Арцюшкевіча, а потым ад сябе таксама павіншавала вернікаў са святам.

Сяргей Мінько ў сваім прывітальным слове ўзгадаў гісторыю стварэння парафіі ў Негарэлым. Яна бярэ пачатак сажніўня 2006 года, калі біскуп Антоні Дзям'янка, які на той час з'яўляўся дапаможным біскупам Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, падпісаў Дэкрэт аб стварэнні парафіі Перамянення Пана ў Энергетыкаве. У наступным годзе гэтая каталіцкая супольнасць была афіцыйна зарэгістраваная. Спачатку касцёл планавалася будаваць у Энергетыкаве, які з'яўляецца пасёлкам і цэнтрам Негарэльскага сельсавета. Але там не ўдалося атрымаць участак зямлі, таму ў выніку храм паўстаў тут, у Негарэлым. Паўстаў дзякуючы руплівай працы ксяндза Дзяніса Шастаковіча, які ад 2011 года з'яўляецца пробашчам парафіі Перамянення Пана. Пра будаўніцтва касцёла мы яшчэ распавядзём падрабязней.

Васіль Гаркаўчук адзначыў, што на сённяшняй урачыстасці прысутнічаюць не толькі католікі, але і праваслаўныя. "Бог у нас адзін, толькі канфесіі розныя, – сказаў кіраўнік сельсавета. – Мы вельмі рады, што ў нас у Беларусі няма канфліктаў на рэлігійнай глебе, што і католікі, і праваслаўныя, і людзі іншых рэлігій і нацыянальнасцей жывуць разам у згодзе".

Пасля вітанняў прадстаўнікоў улады выступілі парафіяльны хор і мясцовая спявачка Тацццяна Міляшкевіч. Дарэчы, Тацццяна таксама спявае і падчас набажэнстваў у касцёле.

Прысутнічаў на святце і дэпутат Палаты прадстаўнікоў Уладзіслаў Цыдзік, які таксама прывітаў са сцэны ўдзельнікаў мерапрыемства.

Былі ўзгаданыя добрым словам і тыя вернікі, што таксама прымалі ўдзел у будаўніцтве храма, але не дажылі да сённяшняга дня. Ад іх імя таксама паклалі жоўтыя кветкі ў агульны святочны букет.

Закончылася першая частка святочнай праграмы так, як і пачалася: гімнам "Магутны Божа" ў выкананні Валерыя Шмата. Але на гэты раз вернікі не толькі слухалі спевака, але і спявалі разам з ім.

### Касцёл у Негарэлым будавалі ўсе разам

Як распавядаюць мясцовыя жыхары, свайго касцёла ў Негарэлым не было. Вернікам даводзілася ездзіць у Рубяжэвічы, Нясвіж, пасля з'явіліся касцёлы ў Мінску і Дзяржынску.

Наогул, варта ўзгадаць той факт, што з 1921 па 1939 гг станцыя Негарэлае выконвала ролю галоўных варот тагачаснага Савецкага Саюза. Непадалёк праходзіла мяжа з Польшчай, і ў Негарэлым спыняліся ўсе міжнародныя цягнікі. Таму Негарэлае мела статус прыгранічнай станцыі, і пра ніякае будаўніцтва храма не магло быць і гаворкі. У пасляваенныя часы касцёлы ў Беларусі не толькі не будаваліся, але разбураліся і тыя, якія захаваліся. Сітуацыя змянілася толькі напрыканцы 80-х гадоў мінулага стагоддзя, калі ў Беларусі сталі адраджацца закінутыя храмы, а пасля і будавацца новыя.

Гадоў пяць таму прадстаўнікі парафіі Перамянення Пана разам з маладым пробашчам мелі сустрэчу з арцыбіскупам Тадэвушам Кандрусевічам. Яны прасілі дапамагчы ў справе будаўніцтва храма, бо да гэтага вернікам даводзілася маліцца ў розных памяшканнях: гэта былі і прыватныя кватэры, і дзіцячы летнік, і падвал дома.

Арцыбіскуп прапанаваў вернікам знайсці пустое памяшканне, каб потым перарабіць яго ў касцёл.

Успамінае актывістка парафіі Марыя Качаноўская:

– Мітрапаліт параіў нам тады: шукайце якое-небудзь непрыдатнае памяшканне, трошкі яго адрамантуйце і маліцеся. Але Пан Бог захацеў, каб было не трошкі, а было цудоўна. Раней у нас, у Негарэлым, нават крыжа не было, а зараз стаіць такая цудоўная святыня!



# каб было цудоўна

Закінуты будынак быў знойдзены – гэта недабудаваная крама, якую вернікі выкупілі ў гаспадыні. Але яна была ў дрэнным стане, таму яе знеслі і пачалі будаўніцтва ад самага падмурка.

– Трэба адзначыць, што парафія ў нас вельмі дружная, людзі вельмі ахвярныя. Прыходзілі на працу ўсе: і хто мог, і хто не мог, – узгадвае Марыя Качаноўская. – А хто зусім не мог, то на сваё месца наймаў іншых людзей. Старэйшыя людзі, хто не мог несці кошыка ці вядра з камянямі, цягнулі іх па зямлі. Іх прасілі, каб яны не прыходзілі, бо гэта небяспечна для іх здароўя, а яны адказвалі, што гэта іх святыня, і яны хочуць узяць удзел у яе будаўніцтве. І да каго я не звярталася па дапамогу, ніхто ні разу мне не адмовіў.

Яе муж, Франц Качаноўскі, прымаў удзел у будаўніцтве храма ад самага яго пачатку. Ён пацвярджае словы жонкі, што людзі па першым закліку пробашча або Марыі Антонаўны прыходзілі, каб дапамагчы ва ўзвядзенні святыні.

Пробашч парафіі ксёндз Дзяніс Шастаковіч MSF таксама падкрэсліў, што яго парафія вельмі дружная. На Імшу збіраецца звычайна да паўсотні чалавек, а ў вялікія святы можа быць і сотня вернікаў. Пасля Імшы, калі ў каго дзень нараджэння або якое іншае свята, вернікі застаюцца, каб павіншаваць адзін аднаго. А будаўніцтва касцёла, паводле слоў святара, яшчэ больш аб'яднала гэтых людзей:

– Святыня заўсёды аб'ядноўвае, гэта як вялікі сямейны дом. Тут могуць быць людзі рознага ўзросту, з розных сацыяльных груп, але іх аб'ядноўвае вера.

## Мітрапаліта сустракалі з музыкай

Пасля заканчэння першай часткі святочнага мерапрыемства людзі выйшлі на пляц перад Домам культуры, каб сустрэць арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча. Па традыцыі вернікі паднеслі іерарху хлебны каравай, а хор пад гукі гармоніка прывітаў Мітрапаліта сваім спевам. Арцыбіскуп Тадэвуш акрапіў прысутных святой вадой, пасля чаго святочная працэсія рушыла па галоўнай вуліцы да касцёла.

Каля будынка храма святочную працэсію сустрэлі музыкі з аддзела культуры Дзяржынскага райвыканкама. Было відаць, што такая цёплая сустрэча вельмі спадабалася Мітрапаліту, бо ён прывітаўся за руку з кожным музыкантам. Пасля гэтага арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу ўручылі сімвалічны ключ ад касцёла.

Перад тым, як адчыніць касцёл, ён сказаў: "Ключ мае вялікае сімвалічнае значэнне. Ключом мы закрываем свае памяшканні, каб у яго не трапілі зламыснікі, але ім мы таксама іх адчыняем. Былі часы, калі закрывалі касцёлы, цэрквы, малітоўныя дамы. Але, дзякуй Богу, гэтыя часы мінулі. І я з радасцю адчыняю для вас гэты храм".

## Вера як гіракомпас

На пачатку святой Імшы Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі асвяціў алтар, сцены храма і саміх вернікаў святой вадой, бо менавіта вада з'яўляецца сімвалам ачышчэння.

Іерарх выказаў падзяку ўсім тым, хто спрычыніўся да будаўніцтва храма ў Негарэлым: будаўнікам, вернікам, архітэктарам, мясцовым уладам, спонсарам. Асаблівая ўдзячнасць была выказаная Кангрэгацыі Місіянераў Святой Сям'і, дзякуючы якой і быў рэалізаваны гэты праект. Правінцыял гэтага ордэна ксёндз Адам Сопчык MSF прыехаў у Негарэлае, каб асабіста ўдзельнічаць у святочнай імпрэзе. Дзякуючы іх падтрымцы ў Беларусі пабудавана ўжо дзесяць храмаў, а яшчэ тры знаходзяцца ў стане ўзвядзення.

У сваім слове да вернікаў арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч звярнуў увагу на сцэну Перамянення Пана, якая апісаная ў Евангеллі:

– Сцэна перамянення зачароўвае кожнага, хто яе слухае. Яна таксама дае шмат матэрыялу для разважанняў. І гэта натуральна. Колькі паэмаў напісана пра горы! Колькі людзей кожны дзень накіроўваюцца ў горы, вельмі часта нават рызыкуючы сваім жыццём! Горы іх прыцягваюць як магніт.

Іерарх узгадаў, што менавіта на гары Сіён Бог даў Майсею дзесяць запаведзяў. І зараз гэтыя запаведзі не састарэлі. Нават камуністы, калі рыхтавалі свой "Маральны кодэкс будаўніка камунізму", узялі за аснову гэтыя запаведзі. Праўда, у тым кодэксе не знайшлося месца для Бога, таму і няма зараз камунізму, а Бог ёсць.

Мітрапаліт параўнаў веру з гіракомпасам – апаратам, які прымяняецца для карэкціроўкі палётаў касмічных караблёў. Калі касмічны апарат адхіляецца ад сваёй траекторыі, гіракомпас карэкціруе палёт.



Вось такім гіракомпасам у нашым жыцці павінна быць вера.

Напрыканцы гаміліі арцыбіскуп адзначыў:

– Дарагія вернікі Негарэлага, вы так доўга чакалі, каб мець свой касцёл, у якім будзе цэлебравацца Эўхарыстыя. Нарэшце ва ўзнёслай радасці вы можаце паўтарыць разам са святым Пятром: "Пане, як добра нам тут быць!" Сапраўды добра, бо тут у слове Божым, сакраментах, перадусім у Эўхарыстыі ёсць Хрыстус. Менавіта Ён умацоўвае ў жыццёвых цяжкасцях, каб мы заўсёды маглі казаць, што нічога нас не пазбавіць Божай любові, якая стала бачнай у Езусе Хрысце, Які жыве ў сваім Касцёле. І няхай так будзе!

## У Негарэлым Бог жыве

Словы "У Беларусі Бог жыве" былі прамоўленыя яшчэ ў першай, канцэртнай частцы імпрэзы. Але вернікі сказалі больш дакладна: "У Негарэлым Бог жыве". З гэтым пагадзіўся і арцыбіскуп, які сказаў гэтыя словы напрыканцы святой Імшы. Ён таксама адзначыў еднасць парафіі ў Негарэлым, дзе вернікі разам са сваім пробашчам за невялікі тэрмін змаглі пабудаваць такую прыгожую святыню.

На заканчэнне Імшы пробашч ксёндз Дзяніс Шастаковіч MSF яшчэ раз падзякаваў усім тым, хто спрычыніўся да будаўніцтва касцёла, а таксама да падрыхтоўкі гэтага свята. Ксёндз стараўся нікога не пакрыўдзіць, таму пералік быў даволі працяглым. Вернікі і прадстаўнікі ўладаў таксама ўручылі кветкі і падарункі для Мітрапаліта, ксяндза-правінцыяла і пробашча парафіі. З гэтай нагоды арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч нават пажартаваў, што найбольш працяглая частка Імшы атрымалася паміж Камуніяй і блаславеннем.

Але ніхто не адчуваў стомленасці, усе былі вельмі ўдзячныя Богу за гэтае свята.

– Я лёг спаць у гадзіну ночы, а пятай падняўся, – кажа Франц Качаноўскі, – але стомленасці не адчуваю. У мяне святочны настрой, быццам у іншым свеце пабываў. Проста ляцець хочацца!

Яго жонка Марыя выказалася так:

– Я адчуваю радасць. Мы радаваліся з першага дня, як толькі пачалі камяні закладваць у падмурак. Мы заўсёды працавалі з песняй і малітвай. Нават дождж нас не мог прагнаць. Мы лічылі, што Бог нас такім чынам блаславіў. Таму мы бязмерна ўдзячныя Пану Богу за сённяшні дзень!

Разам з вернікамі парафіі ў Негарэлым на свяце былі вернікі з суседніх парафій: з Дзяржынска, Узды, іншых месцаў. Верніца парафіі ў Дзяржынску Ніна Макарэвіч адзначыла, што яны прыехалі сюды не толькі каб святкаваць, але і дапамагчы суседзям у падрыхтоўцы святочнага мерапрыемства:

– Мы вельмі рады адчуваць сябе адзінай вялікай каталіцкай сям'ёй. І гэта свята не толькі ў нашых суседзяў, але ва ўсіх нас! – адзначыла спадарыня Ніна.

Закончылася святая Імша спевам гімна "Магутны Божа", які гучаў у Негарэлым у гэты дзень тройчы.

А напрыканцы ўсіх удзельнікаў фэсту запрасілі ў Дом культуры, дзе іх чакаў смачны абед. А парафія ў Негарэлым пачала адлік другога дзесяцігоддзя свайго існавання.





# “Моладзь

“Моладзь для Хрыста” – гэта адна з груп маладых людзей з Віцебскай дыяцэзіі, якая ўдзельнічала ў Сусветных днях моладзі ў Кракаве. Мне таксама давялося быць менавіта ў гэтай частцы беларускай моладзі, якая сустрэлася з Папам Францішкам.

**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Наша супольнасць аб’яднала 44 хлопцаў і дзяўчат з Мёраў і Браслава, Дзісны і Верхнядзвінска, Друі і Глыбокага, Шаркаўшчыны і Варапаева, Слабодкі і Дзеркаўшчыны, а таксама з Барысава і Клецка. Моладзь суправаджалі святары і законныя сёстры: кс. Вячаслаў Адамовіч з Дзісны, кс. Анджэй Бочар з Далёкіх, эўхарысткі с. Наталля Арлянковіч з Друі і с. Ірына Папакуль з Браслава.

Ну а цяпер крыху падрабязней пра гэтыя насычаныя дні радасці і новых знаёмстваў, сустрэчы і малітвы, забавы і праслаўлення.

## “Пілігрым у дом – Бог у дом”

Наш шлях на Дыяцэзіяльныя дні моладзі (ДДМ), якія папярэднічалі СДМ, у парафію Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі ў Міхалавіцах, што паблізу Варшавы, пралягаў праз Вільню. Зранку ў санктуарыі Божай Міласэрнасці была адпраўлена св. Імша, пасля якой манахіня, каторая працуе там, сказала, што яе вельмі ўразіў прыгожы шматгалосы спеў маладых людзей з Беларусі, які ўзносіўся на хвалу Божую. Наведаўшы Вострую Браму і ўзнёсшы малітвы да Маці Божай Вастрабрамскай, мы накіраваліся далей.

**20 ліпеня**, каля 21 гадзіны, аўтобус з удзельнікамі дасягнуў першай мэты пілігрымкі – прыбыў у Міхалавіцы, дзе, як прызналіся парафіяне, яны на працягу двух гадоў рыхтаваліся і вельмі чакалі гасцей з суседняй Беларусі. Прыемнай і кранальнай стала сустрэча: парафіяльная супольнасць разам са святарамі сустракалі нас з песняй на вуснах перад святыняй, трымаючы беларускі і польскі сцягі. Мясцовыя жыхары адчынілі не толькі дзверы сваіх дамоў, але і свае сэрцы для маладых беларусаў. Валанцёры для кожнага падрыхтавалі жоўтыя заплечнікі з сувенірамі і неабходнымі рэчамі, а кожная сям’я, прымаючы ў свой дом пілігрыма, вітала нас з хлебам і соллю.

Кожны дзень прабывання на ДДМ група “Моладзь для Хрыста” мела насычаную праграму.

**21 ліпеня** – экскурсія па Варшаве, наведванне Сейма Польшчы, прысутнасць на пасяджэнні, шпацыр па Каралеўскім садзе. Пасля абеду ў Варшаўскай семінарыі мясцовы клерык 4 курса правёў экскурсію па навучальнай установе. Увечары – дыяцэзіяльнае спатканне на канцэрце на плошчы Пілсудскага.

**22 ліпеня** беларусы разам з грузінскай групай наведалі Санктуарый Маці Божай Беззаганна Зачатай і св. Максіміліяна Кольбе ў Непакалянаве. Вельмі прыемна было спаткаць цяперашняга апекуна гэтага санктуарыя а. Мірaслава Капчэўскага, францішканіна, які на працягу многіх гадоў служыў у Удзеле, што на Глыбоччыне. Таксама сустрэліся з а. Веславам Глэмбоцкім, які 24 гады працаваў у Івянцы. Потым была сустрэча і маленькі імправізаваны канцэрт разам з групай з Грузіі ў Доме састарэлых і інвалідаў у Брамках. Увечары ў парафіяльным касцёле адбылося набажэнства святла з выстаўленнем Найсвяцейшага Сакраманта з удзелам сем’яў, што прымалі пілігрымаў.

Суботні дзень, **23 ліпеня**, стаў спартыўным. Беларусы і грузіны гулялі разам, а таксама праходзілі розныя квесты. Каманда з чатырох беларускіх дзяўчат стала самай хуткай і перамагла. На заканчэнне адбыўся футбольны матч. Пераможцамі яго сталі юнакі з Грузіі.

**24 ліпеня** пасля нядзельнай святой Імшы важным пунктам праграмы стала сустрэча ў сем’ях. Сваячка сям’і Рэнаты і Кшыштафа Гінько, у якіх пражывала я, запрасіла на ўрачысты абед, бо ў іх гасцілі дзяўчаты з Гандураса. Супольны міжнацыянацыльны нядзельны абед атрымаўся! На заканчэнне дня на прыкасцельнай тэрыторыі адбыўся развітальны вечар з парафіяльнымі сем’ямі, у якіх моладзь пражывала на працягу чатырох дзён і з якімі за гэты кароткі час мы сталі сапраўднымі сябрамі.

**25 ліпеня** а 9 гадзіне раніцы цягнік з беларусамі накіраваўся ў Кракаў, дзе нас чакала вялікая чарга на рэгістрацыю, сустрэча са знаёмымі з Мінска і Барысава, новыя знаёмствы з кракаўскімі сем’ямі, у якіх нам пашчасціла пражываць. Увечары адбылося знаёмства з маёй новай польскай сям’ёй Марыі і Збігнева, і адразу цікавы факт “усплыў”. Аказваецца, наш гаспадар у далёкія 1976-77 гг. працаваў у Друі на чыгунцы, прымаў удзел ва ўрачыстасці Божага Нараджэння ў касцёле ў Мёрах. Вось такі маленькі свет атрымліваецца.

**26 ліпеня** мы наведалі санктуарый Божай Міласэрнасці ў Лагеўніках і прынялі ўдзел у святой Імшы на распачацце Сусветных дзён моладзі на Кракаўскіх Блонях.

## Катэхезы для моладзі і пытанні біскупам

**27 ліпеня** мы сабраліся ў касцёле св. Максіміліяна Кольбэ ў Містшэёвіцах (раён Кракава, дзе пражывалі ўсе групы з Беларусі) на супольную малітву і першую катэхезу, якую правёў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі. Іерарх заклікаў хлопцаў і дзяўчат быць сапраўднай візітоўкай нашай краіны, якая б несла ў свет добрае сведчанне.

Чарговы дзень, **28 ліпеня**, распачаўся з малітвы да Духа Святога і катэхезы на тэму “Дакрануцца да Божай Міласэрнасці”, якую правёў біскуп Віцебскай дыяцэзіі Алег Буткевіч. Пасля навукі хлопцы і дзяўчаты дзяліліся сведчаннямі, як Бог дзейнічае праз Сваю Міласэрнасць у іх жыцці. Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч таксама далучыўся да сведчанняў і распавёў некалькі выпадкаў са свайго жыцця.

“Мы часта не заўважаем простыя моманты і сітуацыі, калі Божая Міласэрнасць дзейнічае, але памятайце, яны ёсць у нашым жыцці і здараюцца вельмі часта”, – падкрэсліў Мітрапаліт Кандрусевіч.

Падчас св. Імшы, якую ўзначаліў біскуп Віцебскі, Алег Буткевіч заклікаў беларускую моладзь паназіраць за сведчаннем маладых людзей з іншых краін. Гэта добрая магчымасць пазнаць жыццё Касцёла на розных кантынентах зямлі, але таксама і падзяліцца сваім досведам веры.

У беларускай моладзі была і магчымасць задаць пытанні біскупам. Адно з пытанняў, скіраваных арцыбіскупу Тадэвушу Кандрусевічу, гучала так: “Ваша Эксцэленцыя, як Вы лічыце, якімі павінны вярнуцца ў Беларусь маладыя людзі пасля Сусветных дзён моладзі ў Кракаве і спаткання са Святым Айцом?”

“Яшчэ Ян Павел II сказаў, што моладзь – гэта надзея свету, надзея Касцёла. Мы, беларускія біскупы, хацелі б бачыць у вас людзей, якія не будуць, як галінкі, што гайдаюцца ад паveву ветру сучаснага свету, але будзеце моцнымі дрэвамі з вялікімі каранямі. Жадаем вам, каб вярнуліся ўмацаванымі і сапраўднымі сведкамі сваёй веры, якую будзеце несці сучаснаму Касцёлу ў Беларусі”, – адказаў мітрапаліт Кандрусевіч.

## Папа прыехаў на трамваі і атрымаў заплечнік удзельніка СДМ

Увечары **28 ліпеня** на Кракаўскіх Блонях адбылося ўрачыстае прывітанне Святога Айца, які прыбыў у Польшчу на Сусветныя дні моладзі.

Трансляцыя на вялікіх экранах (тэлебімах), устаноўленых на полі, распачалася з выхаду Папы Францішка з Дома Арцыбіскупаў у Кракаве, пасля чаго ён разам з людзьмі з абмежаванымі магчымасцямі праехаў на трамваі, а затым, перасеўшы на папамабіль, праехаў праз сектары, дзе знаходзілася каля 600 тысяч католікаў з 187 краін свету, каб іх прывітаць.

А 17.30 Святы Айцец з’явіўся на галоўным алтары. Словы прывітання да Пантыфіка скіравала моладзь, якая прымала ўдзел у мінулых СДМ у Рыа-дэ-Жанэйра.

Святы Айцец як першы зарэгістраваны пілігрым атрымаў падрыхтаваны для яго белы заплечнік удзельніка дзён моладзі. Затым юнакі і дзяўчаты прадставілі танец “Кракавяк” як сімвал гасціннасці Кракава для маладых людзей з усяго свету.

Пасля адбылася прэзентацыя шасці кантынентаў і працэсія са сцягамі. Адметна, што еўрапейскую частку Еўразіі прадстаўляла беларуска Наталля Скіпар – салістка музычнага тэатра ў Любліне, выпускніца аддзялення музыкалогіі Каталіцкага ўніверсітэта ў Любліне. Дзяўчына, апранутая ў стылізаваны нацыянальны строй, выканала кароткі спеў на беларускай



# для Хрыста”



мове, у якім распавяла пра ўклад св. Вінцэнта-дэ-Поля ў распаўсюджванне Божай міласэрнасці ў Еўропе.

Сваю прамову Святы Айцец распачаў з прывітання і слоў: “Нарэшце мы спаткаліся! Вялікі дзякуй за гарачае прывітанне!” Папа Францішак заклікаў моладзь не быць заўчаснымі “пенсіянерамі”, не хадзіць са смутным тварам штодзённа, як быццам жыццё не мае ніякай каштоўнасці, але таксама прасіў не гнацца за фальшывымі ілюзіямі, якія выкрадаюць найлепшае.

“Дзеля гэтага мы сёння сабраліся, каб дапамагчы сабе ўзаемна, бо не можам дазволіць страціць найлепшае, што маем, страціць запал, радасць і мары, даючы ўзамен фальшывыя ілюзіі”, – падкрэсліў Пантыфік.

## Крыжовы шлях і беларус у ролі Езуса

**29 ліпеня** на Кракаўскіх Блонях Папа Францішак разам з некалькімі сотнямі тысяч маладых людзей прыняў удзел у Крыжовым шляху.

Аўтары вырашылі стварыць сучасны Крыжовы шлях, які новым, беспрэцэдэнтным спосабам будзе звяртаць увагу не толькі на апошнія хвіліны мучаніцкай дарогі Езуса, але таксама прадставіць Крыжовую дарогу ў якасці Шляху міласэрнасці.

Ролю Езуса Хрыста ў першым прыпынку выканаў беларускі танцор Максім Вайцюль, выпускнік дзяржаўнай балетнай школы ў Мінску, а сёння – першы саліст Народнага балета Польшчы і ўладальнік тэатральнай музычнай узнагароды імя Яна Кіпуры як найлепшы танцор у Польшчы.

Традыцыйная схема 14 стацый была звязана з 14 справамі міласэрнасці для душы і для цела. Кожная стацыя – сустрэча з іншай формай мастацтва, з указаннем назвы і зместу стацыі. Для гэтай мэты стваральнікі выкарыстоўвалі сучасныя, часам смелыя (авангард) і сімвалічныя формы, пачынаючы ад сучаснага танца, жывапісу на пяску, паветранай акрабатыкі, камп'ютарнай анімацыі і вулічнага мастацтва. Такія формы эфектыўныя і лёгка ўспрымаюцца маладымі людзьмі ва ўсім свеце.

“Крыжовы шлях – гэта адзіная дарога, якая перамагае грэх, зло і смерць, вядзе да прамяняльнага святла ўваскрасення Хрыста, адкрываючы гарызонты новага і поўнага жыцця. Гэта дарога надзеі і будучыні. Хто яе выбірае са шчырым сэрцам і верай, дае чалавецтву надзею і будучыню”, – звярнуўся да ўдзельнікаў СДМ Папа Францішак.

## Свет не патрабуе «канапавай» моладзі

**30 ліпеня** Пантыфік у пачатку малітоўнага чування на “Campus Misericordiae” ў суправаджэнні прадстаўнікоў усіх кантынентаў – шасці маладых людзей – прайшоў праз усталяваную каля галоўнага алтара Браму Міласэрнасці.

Малітоўнае чуванне складалася з трох частак: пастаноўкі пад назвай “Дарога да крыніцы міласэрнасці” на аснове афіцыйнай малітвы Сусветных дзён, сведчання маладых людзей і адарацыі Найсвяцейшага Сакраманта, падчас якой усе ўдзельнікі маліліся Вяночкам да Божай Міласэрнасці. Адразу пасля чування распачаўся экуменічны канцэрт.

Моладзь усю гэту ноч правяла на Полі міласэрнасці ў чаканні галоўнай св. Імшы з удзелам Святога Айца.

**31 ліпеня** Папа Францішак прыбыў на Поле міласэрнасці, на тэрыторыю ў некалькі гектараў на мяжы Кракава і Вялічкі, якая паўстала адмыслова да СДМ. Каля 2 мільёнаў чалавек прынялі ўдзел у святой Імшы на заканчэнне XXXI Сусветных дзён моладзі.

“Найгоршы параліч для маладога чалавека наступае тады, калі ён пачынае блытаць шчасце з канапай, якая “гарантуе гадзіны спакою, пераносіць у свет відэагульняў, або калі ён праводзіць гадзіны перад камп'ютарам”, – сказаў Папа Францішак.

Па словах Пантыфіка, сучасная эпоха мае патрэбу не ў “канапавай” моладзі, але ў той, якая стане галоўным дзейным суб'ектам гісторыі, якая разам з Богам будзе будаваць лепшы свет, якая навучыць дарослых мірнаму жыццю ў адметнасцях, дыялогу, будаванню мастоў, а не муроў.

Нягледзячы на спёку і стомленасць, малады людзі шчыра віталі ўсклікамі і гучнымі апладысментамі словы Папы.

Святы Айцец абвясціў месца наступных, XXXII Сусветных дзён моладзі. Ім стала Панама.

На заканчэнне Літургіі адбылося папскае бласлаўленне і Пантыфік пакінуў Поле міласэрнасці, а праз некалькі гадзін вылецеў у Рым.

## Моладзь пра ўдзел у СДМ, ці “Што вам спадабалася больш за ўсё?”

● Сяброўская атмасфера і клопат адно пра аднаго;

● Еднасць і добразычлівасць паміж моладдзю з розных краін свету;

● Шчырасць тых людзей, якія прымалі нас у свае сем'і;

● Я ніколі не сустракалася з манашкамі так блізка. Для мяне гэтыя людзі адкрыліся з новага боку. Дзякую Вам!

● Я цешуся, што ўбачыла такую вялікую колькасць вернікаў, што людзі жывуць з Богам. Прыемна быць маленькай часткай гэтай вялікай любові. Я адчуваю, што гэтая сустрэча прынясе плён асабіста ў маёй веры. Дзякуй вам усім і Богу за гэтую сустрэчу;

● Мы ёсць вялікая хрысціянская сям'я. Нават не ведаючы многіх моваў, мы разумелі кожнага па вачах. Гімн СДМ аб'яднаў усіх разам.

● Кожны чалавек з нашай групы асобна – гэта цаглінка, камень, а разам (пасля супольнай шліфоўкі) мы можам быць моцным мастом для іншых.



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета “Каталіцкі Веснік” вул. Савецкая, 1 211800 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211800 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

## Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя “Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Беларускі святар прайшоў 800 кіламетраў шляхам святога Якуба

**Шлях святога Якуба – самая знакамітая дарога пілігрымаў да магілы з парэшткамі апостала Якуба ў іспанскім горадзе Санцьяга-дэ-Кампастэла. Штогод мільёны вернікаў з розных куткоў свету імкнуцца прайсці гэтым шляхам.**




Усённяшнім нумары беларускі святар Ян Раманоўскі, які з'яўляецца студэнтам Наварскага ўніверсітэта ў Памплоне (Іспанія), дзе вывучае філасофію, распавёў "Каталіцкаму Весніку" пра сваю пілігрымку ў Санцьяга-дэ-Кампастэла.

**– Ксёндз Ян, раскажыце, як узнікла ідэя пайсці шляхам св. Якуба?**

– Яшчэ будучы семінарыстам, я чуў, што ёсць шлях св. Якуба, па якім кожны год праходзяць тысячы пілігрымаў. Але на той момант мяне гэта не вельмі зацікавіла. Ужо будучы святаром, я аднойчы натрапіў на амерыканскі фільм "The Way" ("Шлях"), у якім бацька, даведаўшыся, што яго сын загінуў на Каміна (так называецца гэты шлях на іспанскай мове), вырашае прайсці за свайго сына гэтую дарогу. Пасля я пачаў цікавіцца тэмай, шукаць інфармацыю і заахвочваць іншых паглядзець гэты фільм. Па праўдзе кажучы, я быў гатовы прайсці яшчэ ў мінулым годзе разам з маімі сябрамі з Беларусі, нават купіў білеты на самалёт, аднак трэба было пакінуць гэтую ідэю і рыхтавацца да выезду на вучобу ў Іспанію. Аднак думка пра падарожжа не пакідала мяне, тым больш што праз універсітэцкі кампус (гарадок) і праходзіць названы шлях. Пасля экзаменаў я ўзяў заплечнік і рушыў у Санцьяга-дэ-Кампастэла.

**– З якой мэтай Вы пайшлі ў Санцьяга?**

– На Каміна можна сустрэць вельмі многа людзей з розных куткоў свету і, на жаль, большая колькасць з іх не ідзе з рэлігійнымі намерамі, але для спорту, турызму. Я ад самага пачатку ведаў, што маё паломніцтва будзе злучана з малітвай. Я вырашыў, каб падзякаваць Богу за ўсё тое, што атрымаў да гэтага моманту ў сваім жыцці, падзякаваць за здадзеныя экзамены і памаліцца ў розных інтэнцыях, якіх у мяне набралася вельмі шмат і ў якіх мяне прасілі маліцца таксама іншыя.

**– Што патрэбна для таго, каб выбрацца ў такое паломніцтва?**

– Напэўна, у першую чаргу, жаданне і адвага. Але таксама фізічная падрыхтоўка, бо сапраўды: прайсці гэты шлях не так проста. Я, напрыклад, у суме адолеў 797 км. Не маларажнай з'яўляецца таксама матэрыяльная база, але скажу праўду: у гэтым плане на Каміна здараюцца цуды, і я меў магчымасць адчуць гэта на сабе.

**–Да Санцьяга ёсць некалькі шляхоў. Які Вы абралі і чаму?**

– Я абраў французскі шлях, які з'яўляецца самым папулярным, але не толькі з такой прычыны. Гэты шлях праходзіць праз Памплону, горад, дзе я навучаюся. Кожны дзень па дарозе ва ўніверсітэт я сустракаў пілігрымаў і жадаў ім Buen Camino (добрай дарогі), а сам думаў, каб хутчэй ужо настаў той момант, калі і я змагу быць на іх месцы. Французскі шлях якраз пачынаецца ў невялікім гарадку Сэн-Жан-Пье-дэ-Пор, які знаходзіцца за 70 кіламетраў ад Памплоны, дзе я навучаюся. Я быў таксама абмежаваны часам, таму вырашыў пачаць свой шлях, можна сказаць, ад парога свайго дома.

**– А як выглядаў Ваш дзень?**

– Кожны дзень выглядаў амаль аднолькава. А 6-й гадзіне пад'ём, сняданне. Часам трэба было выходзіць і не паснедаўшы. Невялікія прывалы, таму што ў першай палове дня ісці лягчэй, бо не так горача. Калі была магчымасць, то затрымліваўся на абед, і пасля зноў у дарогу. Звычайна на месца начлегу я прыходзіў каля 15-16-й гадзіны, а затым адпачынак, размовы з іншымі пілігрымамі. Часам таксама быў агляд горада ці вёскі, дзе я затрымліваўся на начлег.

**– Якія новыя знаёмствы ў Вас з'явіліся?**

– На гэтым шляху сустракаеш шмат пілігрымаў з розных краін, якія размаўляюць на розных мовах. Некаторыя з іх ідуць з рэлігійнымі мэтамі, некаторыя – як турысты. Нават здаралася сустрэць людзей, якія да канца не ведаюць, навошта яны ідуць. Кожны дзень новыя людзі і магчымасць размовы з імі. Не магу сказаць, што я знайшоў шмат новых знаёмых, таму што многіх з гэтых людзей менавіта на Каміна бачыш першы і апошні раз у сваім жыцці, аднак і такія сустрэчы вельмі ўзбагачаюць. З'явіліся і такія знаёмствы, дзе мы абмяняліся кантактамі, і маю надзею, што, можа, яшчэ будзе нагода сустрэцца з гэтымі людзьмі. Таксама на шляху сустрэў адну сваю знаёмую з Масквы, з якой пазнаёміліся падчас Сусветных дзён моладзі ў Бразіліі тры гады таму.

**– Як выглядала штодзённая малітва на шляху?**

– Заўсёды я стараўся затрымацца на начлег у населеным пункце, дзе ёсць касцёл і магчымасць удзельнічаць у святой Імшы. Для кожнага хрысціяніна Імша з'яўляецца найважнейшым момантам, а тым больш для святара. На жаль, не заўсёды гэта было магчыма, таму што ў Іспаніі ў многіх дыяцэзіях не хапае святароў, а Імша ў некаторых вёсках бывае толькі ў нядзелю. Звычайна на працягу ўсяго дня я маліўся на ружанцы ў розных інтэнцыях, у якіх мяне прасілі маліцца.

**– Якія рэчы, ідучы ў Санцьяга, трэба браць з сабой?**

– Думаю, што гэтае пытанне адно з самых важных. У першую чаргу, трэба мець добры заплечнік, добры абутак, спальнік, плашч і патрэбную вопратку. Але лепш за ўсё не браць з сабой шмат рэчаў, таму што ўсё гэта пілігрым нясе на сабе, і праз некалькі дзён цяжар заплечніка дае пра сябе ведаць. Напрыклад, многія пілігрымы па дарозе пакідаюць некаторыя рэчы, каб было лягчэй.

**– З якімі найбольшымі цяжкасцямі Вы сутыкнуліся на шляху?**

– Хіба што найбольшай цяжкасцю было тое, што я не ўгадаў з абуткам і трэба было яго змяніць. Таксама фізічныя праблемы: невыносны боль пяткі, крывавыя мазалі. Або, напрыклад, зменлівае надвор'е ў Галіцыі, калі на працягу 4 дзён ідзе дождж і ўжо раніцай ты ўвесь мокры, не зважаючы на тое, што маеш плашч. Таксама ў пэўным моманце я быў перакананы, што не дайду, бо сапраўды было цяжка, але нездарма кажуць, што Каміна гэта месца, дзе адбываюцца цуды *(усміхаецца)*.

**– Ці можна заблудзіцца па дарозе?**

– На Каміна многа знакаў, ёсць жоўтыя стрэлкі, таксама ракавінкі св. Якуба, якія паказваюць, куды ісці, дзе павярнуць. Таму праблем з гэтым не павінна быць. Аднак, на жаль, здараюцца і такія сітуацыі, што некаторыя могуць заблудзіцца, калі не звяртаюць увагі на гэтыя абазначэнні або забываюць пра іх.

**– Ці абавязкова патрэбна ведаць замежныя мовы?**

– Веданне замежнай мовы на гэтым шляху вельмі дапамагае. Нават калі нехта не ведае іспанскай мовы, можа таксама карыстацца англійскай. Бо бываюць розныя сітуацыі… Нават мінімальнае валоданне замежнай мовай можа вельмі дапамагчы. А што ўжо казаць, калі мы хочам паразмаўляць з іншымі пілігрымамі, падзяліцца досведам свайго пілігрымавання. Для мяне гэты шлях быў пацвярджэннем таго, што валоданне замежнай мовай адкрывае новыя гарызонты і з'яўляецца магчымасцю яшчэ большага ўзбагачэння.

**– Ксёндз Ян, што Вас найбольш уразіла ў дарозе?**

– Тое, што ты адчуваеш на Каміна, нельга перадаць словамі, гэта трэба перажыць! Перажыць і адчуць гэтую цішыню, калі ты ідзеш адзін. Таксама прыгажосць і малітоўная атмасфера ў многіх касцёлах, якія бачылі шмат паломнікаў на працягу многіх вякоў. Напрыклад, у адной вёсцы знаходзіцца касцёл IX стагоддзя. Калі ўваходзіш у яго, то адразу адчуваеш гэтую малітоўную атмасферу і супакой, якія цябе пранізваюць.

Цікава тое, што адчуваеш сябе бяспечна. Нават была такая сітуацыя, што ўжо на пачатку дня я сустрэў падпітых іспанцаў, якія, аднак, былі вельмі ветлівыя і выказвалі сваю павагу да тых, хто ідзе гэтым шляхам.

**– Чаму Вас навучылі гэты шлях?**

– Я лічу, што гэты шлях яшчэ больш умацаваў маю веру і давер да Пана Бога праз розныя цікавыя сітуацыі, якія мне давялося перажыць падчас Каміна. Яшчэ больш я адчуў радасць са сваёй святарскай паслугі, калі мог некалькі разоў паспавядаць у дарозе людзей, якія мяне прасілі. Мне здаецца, што гэты шлях вучыць дыскрэтнасці, пакоры, вучыць цаніць цішыню, асабліва калі ты ідзеш адзін і маеш шмат часу на малітву, на індывідуальную размову з Богам. Падчас гэтага паломніцтва яшчэ больш разумееш, што ўсе мы ў жыцці пілігрымы. Нашае жыццё – гэта паломніцтва да нябеснай Айчыны, і калі мы дойдзем да гэтай мэты, то зразумеем значэнне і сэнс усяго таго, што перажываем у нашым жыцці, гэтых радасных, але таксама цяжкіх і балючых момантаў.

**– Што адчуваеш, калі даходзіш да мэты?**

– У першую чаргу, радасць, але, з іншага боку, смутак, што гэтая пілігрымка ўжо заканчваецца і трэба вяртацца да сваіх штодзённых абавязкаў і спраў. Цікава, што падчас шляху ты быццам пераносішся ў іншую рэчаіснасць, забываеш пра розныя клопаты, праблемы, пра шэрую штодзённасць. Але ўсё ж цяжка перадаць гэтае перажыванне, той момант, калі пілігрым стаіць перад мэтай свайго паломніцтва. І ў гэтыя хвіліны разумееш, што, нягледзячы на цяжкасці падчас паломніцтва, на сонца, якое пячэ бязлітасна, на дождж, які можа ісці на працягу некалькі дзён, на мазалі і боль у нагах, варта прайсці гэты шлях.

Яшчэ пасля Санцьяга я рушыў у кірунку Фіністэры (канец свету або край зямлі), дзе па традыцыі заканчваецца шлях св. Якуба, дзе пачынаецца акіян і дзе заканчвалі сваё паломніцтва пілігрымы на працягу многіх стагоддзяў.

Я лічу, што толькі той, хто ідзе, можа зразумець усю таямніцу гэтага шляху. Гэта трэба проста перажыць. І я маю надзею, што яшчэ вярнуся на шлях св. Якуба!

*Гутарыла Ірына Грэйць*

# Якое дачыненне павінна мець дзяржава да служэння святароў-замежнікаў у Беларусі?

**Ад свецкіх уладаў у Беларусі залежыць дазвол на права служэння святароў-замежнікаў. Што Вы пра гэта думаеце?**

*Ірына Грэйць*

**Вольга Красільшчыкава:**

– Мяркую, што на сённяшні дзень, хочам мы таго ці не, стаіць вострая неабходнасць у дапамозе замежных святароў. На жаль, у Беларусі ёсць праблема з распазнаваннем паклікання. Маладыя людзі часта нават не разглядаюць пакліканне да святарства. Ксяндзоў у нашай краіне не так шмат. Некаторыя абслугоўваюць нават некалькі парафій. Таму дапамога замежных святароў не перашкодзіць.

**Міхаіл Вішнеўскі:**

– Я лічу, што так не павінна быць, таму што святары з'яўляюцца апосталамі нашага часу. Яны праз сваё служэнне адкрываюць людзям праўду Божага слова і заклікаюць да жыцця паводле яго. І калі народ мае ў гэтым патрэбу, то ўлады не павінны перашкаджаць. А наадварот, павінны даць поўную свабоду касцельным уладам у прыняцці святароў-замежнікаў для служэння ў Беларусі! Калі чалавек жыве згодна з хрысціянскімі каштоўнасцямі, то ён будзе і добрасумленным грамадзянінам. І калі Касцёл робіць наша грамадства лепшым, то для свецкіх уладаў не павінна быць розніцы, якія святары вядуць у ім служэнне.

**Кл. Валерый Пупкевіч SCJ:**

– Для мяне асабіста зразумела: свецкія ўлады не павінны мець ніякага дачынення, што датычыць служэння святароў з-за мяжы. За Касцёл Каталіцкі ва ўсім свеце адказны Папа Рымскі, а нунцый і біскупы ў нашай краіне з'яўляюцца яго прадстаўнікамі. Яны даюць дазволы на служэнне святароў і выключна ад іх павінна залежаць, ці хтосьці можа працаваць, ці не. Іерархі лепей ведаюць погляды кожнага святара, а не ўлада.

**Раман Салахаў:**

– Зараз я знаходжуся за мяжой. З кожным разам усё больш балюча чытаць навіны пра праблемы Касцёла і дзяржавы. Больш за ўсё здзіўляе, што дзяржава спрабуе забараніць служэнне тым святарам, якія прысвячаюць сваё служэнне моладзі. Святары выхоўваюць маладое пакаленне, прывіваюць хрысціянскія прынцыпы, вучаць любіць і дзяліцца з бліжнім усім, што маеш. Няўжо дзяржава ўбачыла ў гэтым канкурэнцыю? Гэтак жа балюча ад таго, што забарона на служэнне святарам замежнага паходжання мае і палітычную афарбоўку. Касцёл зноў становіцца замешаны ў палітычных гульнях. Кожнае паведамленне пра забарону служэння святароў-замежнікаў заўсёды з нейкай недаказанасцю і паўтаямніцай. Не магу зразумець, з чым змагаецца дзяржава... Яна змагаецца за манаполію фарміравання свядомасці моладзі, за манаполію на ўсталяванне нормаў маральнасці? Ці не пачатак гэта новых ганенняў на Касцёл? Застаецца толькі маліцца, каб Бог паказаў сапраўдную любоў людзям, якія прымаюць гэтыя рашэнні, і ўлады сталі з павагай ставіцца да Касцёла і да святароў.

**Людміла Руткоўская:**

– На мой погляд, справа выглядае так: кожны павінен займацца тым, у чым добра разбіраецца. Асабіста ведаю шмат выдатных святароў з-за мяжы. І яны маюць вельмі добрыя харызматы, здольнасці і галоўнае – жаданне працаваць у Беларусі. Зразумела, што павінен быць кантроль над такой далікатнай справай. Але, на мой погляд, такі кантроль мусіць быць з боку каталіцкай улады (біскупаў, арцыбіскупа). Бо яны як ніхто іншы павінны ведаць, хто і як служыць (таму і могуць пад Божым натхненнем вырашаць такія задачы). Галоўнае ў падобных справах – пытацца ў Бога. Бо гэта тэрыторыя Яго Валадарства, і Ён павінен вырашаць такія пытанні.

**Яўген Семяноўскі:**

– Я лічу, што неабходна дазволіць служыць святарам-замежнікам у Беларусі. Святары з іншых краін даюць магчымасць кожнаму з нас нейкім чынам дакрануцца да іншых народаў. Гэта ўнікальная магчымасць парафіянаў, якая спрыяе сваё стаўленне да веры, да Бога са святасцю і чысцінёй нашых блізкіх і далёкіх суседзяў. У маім выпадку "класныя" святары-замежнікі, якіх я буду памятаць да канца свайго жыцця, – гэта а. Тамаш Міка і а. Роберт Балек. У нас адна вера, і няма чаго раздзяляць вернікаў усіх краін, тым больш у наш час глабалізацыі і інтэграцыі сусветнай супольнасці.

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках

**Якое дачыненне павінна мець дзяржава да служэння святароў-замежнікаў у Беларусі?**



- касцёл па сваёй сутнасці паўсюдны, таму дазвол на служэнне святароў-замежнікаў павінен залежыць толькі ад біскупаў – 152 адказы;
- нават пры дзейным заканадаўстве павінны быць дыялог і ўзаемапавага свецкіх уладаў з духоўнымі ў пытанні служэння святароў-замежнікаў – 99 адказаў;
- для мяне няважныя юрыдычныя фармальнасці, я хачу, каб у Беларусі было дастаткова святароў – 38 адказаў;
- свецкія ўлады маюць поўнае права дазваляць або забараняць служэнне святарам-замежнікам у Беларусі – 14 адказаў;
- іншы адказ у каментарах у сацыяльных сетках – 3 адказы.

**Усяго апытаных – 306 чалавек**



## Каментар на Facebook

**Ihar Baranoúski**

На жаль, наша ўласная гісторыя і асабліва цяперашнія праблемы нашай суседкі-Украіны сведчаць, што справа прысутнасці і дзейнасці ў краіне замежных святароў – гэта ня толькі справа біскупаў. Гэта справа і дзяржавы. Не варта, дарэчы, глядзець на гэтае, не такое ўжо і простае пытанне вельмі вузка, вачыма толькі католіка. Запрашаюць у краіну з-за мяжы і пратэстанцкіх прапаведнікаў, і прадстаўнікоў іншых канфесій. Без пэўнага кантролю дзяржавы гэта не можа адбывацца.

# Фотафакт

## Ва Ушачах асвяцілі пірагі і мёд



**Падзея адбылася 10 жніўня на адпустовую ўрачыстасць святога Лаўрэна. На фэст сабраліся вернікі з Ушачаў, а таксама з Глыбокага і Полаччыны. Прыехалі святары з Глыбокага, Параф'янава, Астравеччыны, Мосара, Бешанковічаў. Біскупа Алега Буткевіча прадстаўляў ксёндз Андрэй Аніскевіч, пробашч віцебскай катэдры, які і ўзначаліў святую Імшу. Паколькі святы Лаўрэн з'яўляецца апекуном пекараў і пчаляроў, то ва ўшацкай парафіі стала добрай традыцыяй на ўспамін святога Лаўрэна асвячаць кандытарскія вырабы і мёд. Пасля асвячэння ўсе госці свята маглі пачаставацца гэтымі пірагамі і мёдам. Асабліва спадабаўся пачастунак дзецям. Паглядзець відэарэпартаж з гэтай падзеі можна на сайце catholicnews.by** *Фота Таццяны Смоткінай*

# Каляндар на верасень


Касцёл Нараджэння Маці Божай у Браславе

**8 верасня – Нараджэнне Найсвяцейшай Панны Марыі.**

Свята прысвечана ўспаміну нараджэння Маці Езуса Хрыста. У Новым Запавеце падаецца вельмі мала звестак пра жыццё Багародзіцы, і падзея, якая адзначаецца ў гэты дзень, зафіксавана толькі ў касцельным паданні, каторае расказвае, што бацькамі Панны Марыі былі пабожныя Яўхім з роду цара Давіда і Ганна – з роду першасвятароў. Панна Марыя нарадзілася па адмысловым зароку Бога, дадзеным Яўхіму і Ганне, калі яны былі ўжо ў сталым узросце. Святкуючы Нараджэнне Багародзіцы, хрысціяне падкрэсліваюць, наколькі важная роля адведзена Панне Марыі ў ажыццяўленні плану выратавання чалавецтва. Першыя згадванні пра свята Нараджэння Багародзіцы датуюцца другой паловай V стагоддзя. Прыкладна ў гэты ж час падзея была ўключана ў касцельны каляндар.

**12 верасня – успамін Найсвяцейшага Імя Марыі.**

У гэты дзень праслаўляем Яе імя – "Марыя", якое, паводле традыцыі, Яна атрымала на чацвёрты дзень пасля свайго нараджэння. Гэтае імя ад пачатку хрысціянства з вялікай пашанай вымаўлялася побач з імем Езуса.

**14 верасня – свята Узвышэння Святога Крыжа.**

Лічыцца, што 14 верасня 335 г. адбылося асвячэнне святыні над пячорай Гроба Пана, у якім устанавілі знойдзены Крыж Збаўцы (адшукала крыж святая Алена – маці імператара Канстанціна). Каб шматлікія хрысціяне, прысутныя на ўрачыстасці, маглі ўбачыць вялікую святыню, біскуп узнімаў ("узвышаў") Крыж над галовамі людзей. У Рыме свята было ўведзена Папам Грыгорыем І.

**15 верасня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі Балеснай.**

Марыя трывала ў адзінстве са сваім Сынам аж да крыжа, пад якім стала згодна з Божым намерам. Глыбока цярпела разам са сваім Сынам і злучылася матчыным сэрцам з Яго ахвяраю. Найсвяцейшая Панна, ахвяруючы Езуса ў святыні і церпячы разам са сваім Сынам, Які паміраў на крыжы, асаблівым чынам супрацоўнічала са справаю Збаўцы праз веру, надзею і гарачую любоў, каб аднавіць звышнатуральнае жыццё душ.

**21 верасня – успамін св. Мацвея, апостала і евангеліста.**

Да пакликання ў супольнасць апосталаў Мацвей быў мытнікам у Капернауме, горадзе, які знаходзіўся на заходнім беразе Генісарэцкага возера. Ён меў таксама і другое імя – Левій. Згодна з традыцыяй, пасля ўнебаўшэсця Хрыста Мацвей каля 42 г. пакінуў Палесціну і накіраваўся абвяшчаць Евангелле ў Егіпет і Эфіопію. Там ім былі здзейсненыя шматлікія аздараўленні. Не захавалася звестак пра тое, дзе і пры якіх абставінах загінуў апостал, але ўжо першыя хрысціяне ўшаноўвалі яго як мучаніка. Святы Мацвей з'яўляецца апекуном мытнікаў і банкіраў, а таксама ратуе ад алкагалізму.

**23 верасня – успамін св. Піа з П'етрэльчыны, святара.**

Франчэска Фарджонэ – будучы айцец Піа – нарадзіўся 25 мая 1887 г. у П'етрэльчыне (Паўднёвая Італія). У шаснаццацігадовым узросце ўступіў у закон капуцынаў і праз сем гадоў прыняў святарскае пасвячэнне. У 28 гадоў айцец Піа атрымаў стыгматы – раны, як у Езуса Хрыста, што прычынялі яму нясцерпны боль. З-за накладзеных на яго абмежаванняў падрэ Піа прысвяціў сябе паглыбленаму духоўнаму жыццю, асабліва культу Эўхарыстыі, Мукі Пана і Маці Божай Балеснай, а таксама апостальству споведзі. Айцец Піа вядомы таксама як містык: ён меў дар білакацыі (адначасовага знаходжання ў двух месцах), дары моваў, чытання ў сумленні, прадказання будучыні. Акрамя таго, ён заснаваў Дом палёгкі ў цярпенні – сучасную медыцынскую ўстанову, якая разам з тым з'яўляецца месцам малітвы і навукі, а таксама міжнародны малітоўны рух, што ахоплівае сотні груп вернікаў па ўсім свеце.

Падрэ Піа памёр 23 верасня 1968 г. у Сан-Джаванні Ратонда, дзе і быў пахаваны. Праз трыццаць гадоў пасля смерці ён быў беатыфікаваны, а ў 2002 г. кананізаваны.

**27 верасня – успамін св. Вінцэнта дэ Поля, святара.**

Святы Вінцэнт дэ Поль нарадзіўся ў Паўднёвай Францыі ў 1581 г. у беднай сялянскай сям'і. Пасля адпаведнай падрыхтоўкі ў 1600 г. атрымаў святарскае пасвячэнне. Праз пяць гадоў быў захоплены піратамі, і тры гады правёў у рабстве ў Тунісе. У 1617 г. святы Вінцэнт прысягнуў да канца свайго жыцця служыць бедным і ў тым жа годзе арганізаваў Брацтва міласэрнасці – супольнасць свецкіх сясцёр. Праз тры гады ён заснаваў мужчынскае таварыства служыцеляў бедных. З мэтай павышэння ўзроўню ўнутранага жыцця духавенства ўвёў практыку рэкалекцый перад пасвячэннем і заснаваў духоўныя семінарыі пад кіраўніцтвам святароў-місіянераў. Паколькі сядзіба супольнасці Місій знаходзілася побач з парыжскім касцёлам святога Лазара, законнікаў пачалі называць лазарыстамі.

У 1633 г. Вінцэнт дэ Поль разам з Луізай дэ Марыяк заснаваў законную супольнасць Дачок міласэрнасці, вядомых пад назваю шарыткі (ад французскага слова charity – міласэрнасць). Памёр святы ад знясілення 27 верасня 1660 года ў Парыжы. 13 жніўня 1729 г. Папа Бэнэдыкт XIII абвясціў Вінцэнта дэ Поля благаслаўлёным, а 16 чэрвеня 1737 г. Папа Клімент XII далучыў яго да ліку святых.

**29 верасня – Дзень святых Арханёлаў Міхаіла, Габрыэля, Рафаіла.**

Святы Арханёл Міхаіл – апякун Касцёла ў Беларусі. Імя "Міхаіл" некалькі разоў узгадваецца ў Святым Пісанні і азначае "Хто як Бог". У Евангеллі гаворыцца яшчэ пра аднаго Арханёла – Габрыэля, які прадказаў святару Захарыю нараджэнне сына – святога Яна Хрысціцеля, а Панне Марыі звеставаў нараджэнне Езуса Хрыста. Арханёл Рафаіл згадваецца ў старазапаветнай кнізе Тобія. Лічыцца, што ён ахоўвае людзей ад хваробаў і ранаў.

## На верасень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскага і біскупскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:

**1 верасня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Віталь Бяленік, кс. Віталь Цыбульскі CSsR**; імяніны адзначаюць **а. Браніслаў Дашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Віталь Цыбульскі CSsR**;

**4 верасня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Антон Лагунёнак** *(Канстанцінава)*, **кс. Аляксей Раманчук** *(Барысаў)*, **кс. Аляксандр Раманоўскі**; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Юры Бараўнёў** *(Порплішча)*;

**5 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ян Радзюк**;

**6 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Артур Вальчкевіч** *(Гродна)*;

**7 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вітальд Лазавіцкі** *(Радунь)*;

**8 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Караль Бараноўскі** *(Гродна)*;

**9 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Ежы Ёдзік** *(Цудзэнішкі)*; імяніны адзначае **кс. Сяргей Сурыновіч** *(Друя)*;

**10 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Пётр Віснеўскі** *(Шылавічы)*;

**11 верасня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Яцэк Маркел CMF** *(Зэльва)*, **кс. Анатоль Захажэўскі** *(Міхалішкі)*; імяніны адзначае **кс. Яцэк Маркел CMF** *(Зэльва)*;

**13 верасня** – гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Вінцэнт Лісоўскі** *(Ліда)*;

**14 верасня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Ежы Церабей** *(Крэва)*, **кс. Вальдэмар Слота** *(Вялікая Бераставіца)*;

**18 верасня** – імяніны адзначаюць **кс. Станіслаў Мжыглуд SDS** *(Браслаў)*, **кс. Станіслаў Пацына** *(Ліда)*;

**19 верасня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Алег Кананові́ч, кс. Ян Козак** *(Ішчальна)*, **кс. Іван Огар SDB** *(Смаргонь)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Тадэвуш Кавальскі OFMCap**;

**20 верасня** – імяніны адзначае **кс. Алег Мурзіч** *(Канстанцінава)*;

**21 верасня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Аляксей Ляшко** *(Швейцарыя)*, **кс. Альфрэд Пяхота MS** *(Відзы)*;

**22 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Чайкоўскі** *(Навапалацк)*;

**23 верасня** – дзень нараджэння адзначае **біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч**; імяніны адзначаюць **кс. Багуслаў Маджэеўскі, кс. Багуслаў Вуйтовіч OFMConv** *(Гальшаны)*;

**24 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Руслан Мазан** *(Ліда)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **а. Віталь Юркевіч OFMCap**;

**26 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Аніскевіч** *(Віцебск)*;

**27 верасня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Мацкевіч**; імяніны адзначаюць **кс. Вячаслаў Дубавец, кс. Цэзары Міх** *(Скідаль)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначаюць **кс. Яўген Барысюк** *(Казловічы)*, **кс. Валерый Быкоўскі** *(В. Эйсманты)*, **кс. Ежы Церабей** *(Крэва)*, **кс. Ежы Ігнатовіч** *(Правыя Масты)*, **кс. Ежы Канапелька** *(Мсцібава)*, **кс. Аляксандр Раманоўскі**;

**28 верасня** – імяніны адзначаюць **кс. Вячаслаў Адамовіч** *(Дзісна)*, **кс. Вячаслаў Барок** *(Віцебск)*, **кс. Вячаслаў Пялінак** *(Ідолта)*, **кс. Вацлаў Суткоўскі SAC** *(Талачын)*, **кс. Вадзім Мізер MIC** *(Барысаў)*, **кс. Вячаслаў Дубавец** *(Чэрвень)*;

**29 верасня** – гадавіну біскупскага пасвячэння адзначае **біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоні Дзям'янка**; дзень нараджэння адзначае **кс. Славамір Самковіч** *(Пагошча)*; імяніны адзначаюць **а. Міхал Ермашкевіч OP** *(Віцебск)*, **кс. Міхал Татарэнка** *(Лужкі)*, **кс. Міхал Бубен, кс. Міхал Сапель, кс. Міхал Цвячкоўскі MIC** *(Жодзіна)*, **кс. Міхал Ластоўскі** *(Копцеўка)*, **кс. Міхал Сцяцкевіч** *(Першамайскі)*, **кс. Міхал Васількевіч** *(Ізабелін)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Аляксей Раманчук** *(Барысаў)*;

**30 верасня** – дзень нараджэння адзначае **а. Лех Баханэк OFMConv** *(Івянец)*; гадавіну святарскага пасвячэння адзначае **кс. Юзаф Трубовіч** *(Гродна)*.

**Просім нашых дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў і біскупаў.**

*Падрыхтавала Марына Ткач*

# Феномен іканаборства ў Касцёле

**Прапаную разгледзець адзін з феноменаў у Каталіцкім Касцёле – іканаборства (знішчэнне іконаў), якое з’явілася ў VIII стагоддзі ва ўсходняй частцы Рымскай імперыі, Візантыі.**

**а. Віталь Сапега**, *дамініканін, Віцебск*

Гэтая справа выклікала такі сур’ёзны рэзананс у тагачасным каталіцкім свеце, што нават быў скліканы чарговы ўсеагульны сабор, Другі Нікейскі (787 г.). На саборы пастанавілі, што прадметам хрысціянскага культу і пакланення з’яўляецца не толькі крыж нашага Збаўцы, Езуса Хрыста, але таксама святыя Яго абразы (іконы), постаці Багародзіцы, анёлаў, святых, намаляваныя, складзеныя мазаічна або іншым нейкім спосабам выкананыя. Каб глыбей зразумець феномен іканаборства, варта звярнуцца да тэалогіі, да з’яўлення іконы на гістарычнай касцельнай сцэне.

## Мастацтва катакомбаў

Ікона (пераклад з грэцкага – абраз, выява) бярэ свае карані з катакомбавага мастацтва. Гэтае мастацтва само ў сабе было знакавае. Знак заўсёды паказвае на штосьці, на кагосьці або да гэтых штосьці ці кагосьці накіроўвае. Напрыклад, дарожныя знакі. Мэта знака простая: аб’яўленне збаўлення, а праз зашыфраваныя элементы – імкненне паказаць сродкі, якія вядуць да гэтага збаўлення. Знак у катакомбавым мастацтве можна падзяліць на тры групы: знакі, якія маюць дачыненне да вады – каўчэг Запавету, прарок Ёна, Майсей, рыба ці якар; знакі, стасаваныя да Цела і Крыві Хрыста: памнажэнне хлябоў, збожжавыя каласы, вінаградная лаза; трэцяя група – збаўленне – біблійныя юнакі ў палымнянай печы, Даніэль сярод ільвоў, легендарная птушка Фенікс, уваскрослы Лазар і Добры Пастыр. Хаця катакомбавае мастацтва і было ў нейкім сэнсе прымітыўным (хрысціяне мусілі шыфравацца і хавацца), але ўсё ж такі імкнулася прыпомніць і скіраваць да самага важнага ў жыцці хрысціяніна, да Езуса Хрыста – крыніцы ўсялякіх ласкаў.

## Сімволіка іконы

Аднак далей, у гістарычнай крутаверці, адбываецца трансфармацыя катакомбавага мастацтва. Яму на змену дзесьці ў IV стагоддзі прыходзіць іканапіс. Такім чынам знакавае мастацтва ператвараецца ў сімвалічнае. Сімвал у адрозненні ад знака ўжо падпарадкаваны нейкай рэчаіснасці і нават, кажучы канкрэтней, удзельнічае ў гэтай рэчаіснасці. Што датычыцца іконы, то менавіта той, хто да яе дакранаецца, як бы акунаецца ў духоўны свет. Адным словам, ікона аб’яўляе звышпрыродную рэчаіснасць. Менавіта ікона разбіла прыняты ў мастацтве трохвугольнік – мастак, твор і глядач, выказваючы тым самым сваю незалежнасць і выўляючы чацвёрты элемент – тэафанію, г.зн., Божую прысутнасць. Таму якраз знаходзячыся перад іконаю, нельга заставацца толькі гледачом: перад іконаю трэба ўкленчыць, трэба маліцца і адараваць прысутнасць Жывога Бога. Не трэба, напэўна, тут прыгадваць, што іканапісец (важна ўсвядоміць, што іконы пішуцца, а не малююцца) павінен прытрымлівацца асаблівых правілаў (канонаў), што, стараючыся аб’явіць Божую рэчаіснасць, павінен трывала маліцца і пасціць.


Даменіка Марэлі “Іканаборцы”. XIX стагоддзе

## Італьянская тэхніка іканапісу і пратэстанцтва

Менавіта заходні Касцёл нашыя браты, праваслаўныя, абвінавачваюць у тым, што ён з цягам часу страціў гэтыя іканапісныя прынцыпы. І што пачалося гэта ўжо ў Італіі ў XIV стагоддзі, калі новая школа італьянскіх мастакоў (Giotto, Duccio, Cimabue) прапанавала ў сваіх працах аптычную тэхніку: перспектыўную глыбіню і асвятленне. Гэтае мастацтва, паводле некаторых экспертаў, адыходзячы ад іканапісных канонаў, атрымала тым самым поўную аўтаномію і пачало развівацца больш у свецкім кірунку. З’явіўся, паводле экспертаў, даволі яскрава выражаны эмацыянальны элемент. Тым самым мастацтва ў заходнім Касцёле ператваралася з мастацтва сакральнага ў рэлігійнае. Партрэт, пейзаж, арнамент становяцца яго прэрагатывай. Далей яшчэ горш. Падчас Рэфармацыі Лютар ставіцца да абразоў выключна як да ілюстрацыі. Кальвін у сваю чаргу прымае толькі масавыя гістарычныя сцэны. Для пратэстантаў мастацтва проста перастае быць праваднікам Божай рэчаіснасці.

## Абагаўленне іконаў

Але ж усё-такі вернемся да іканапіснага крызісу ва ўсходняй частцы Рымскай імперыі. Не варта, думаю, тут прыводзіць дакладныя гістарычныя падзеі той эпохі, калі гэта пачалося і як пачалося. Кожны зацікаўлены сам можа дасканалей пазнаёміцца з гістарычнымі падзеямі ў кнігах або ў навуковых працах. Тут толькі пастараемся знайсці прычыну ці шэраг прычынаў гэтага феномену. Некаторыя з даследчыкаў вылучаюць прычыны палітычныя, некаторыя – сацыяльныя ці эканамічныя. Усім вядомы святар А. Мень, напрыклад, лічыў, што прычынаю такога стаўлення да ікон быў росквіт магічнага мыслення сярод грамадзянаў імперыі. Як сведчаць гістарычныя крыніцы, некаторыя з вернікаў выкарыстоўвалі іконную фарбу для змешвання з Эўхарыстыяй, іншыя ў сваю чаргу клалі св. Камунію на іконы з выявай святых, каб такім чынам з іх “рук” атрымаць гэты найкаштоўнейшы дар. Паводле а. Аляксандра Меня, людзі пачалі пакланяцца не Богу, а самім іконам, якія станавіліся, такім чынам, сродкам аздараўлення і збаўлення (дарэчы, мы, сучаснікі, на жаль, таксама перажываем нешта падобнае). Таму ўлада, як духоўная, так і свецкая, павінна была неяк рэагаваць на такія праявы “пабожнасці” Божага люду. Але акрамя гэтай версіі ёсць яшчэ адна.


“Добры Пастыр”, катакомбы Прысцылы

## Іслам – прычына іканаборства?

Сто гадоў раней ад гэтых трагічных падзей нарадзілася новая рэлігія – іслам, які пачаў свой трыумфальны паход па тагачаснай Візантыйскай імперыі. Так, менавіта трыумфальны, таму што народы Сірыі, Егіпта лічылі арабаў вызваліцелямі і ў большасці самі адчынялі перад імі брамы сваіх гарадоў, пазбаўляючыся тым самым ад ненавіснага грэцкага палітычнага іга, а таксама ад незразумелага хрысціянства, якое пакрысе перарадзілася ў магію. І здаецца, што гэта версія таксама мае права на існаванне.

## Асветніцтва і разумнасць веры

Таму тут напрошваецца выснова, што ў большасці праблемы ў Касцёле, а ў шырэйшым сэнсе і ў дзяржаве, пачынаюцца з недахопу асветніцкай дзейнасці, з неглыбокага разумення сваёй веры, а тым самым і сваёй тоеснасці. Вера хрысціяніна не павінна быць “сляпая”, яна мусіць быць разумнай.

> **“У Ветцы (Гомельская вобласць) бальшавікі два тыдні цеплілі мясцовую лазню старажытнымі іконамі”**

Іканаборства было таксама і на нашых землях, калі ў XX стагоддзі ўладу захапілі бальшавікі са сваімі бандыцкімі замашкамі. Сведкі тых часоў расказваюць, што ў Ветцы (Гомельская вобласць) – цэнтры стараабрадства ў Вялікім Княстве Літоўскім – бальшавікі два тыдні цеплілі мясцовую лазню старажытнымі іконамі, а ў часы хрушчоўскай “адлігі” замалёўвалі ацалелыя іконы палавой фарбай. І гэта, на жаль, не адзінкавыя выпадкі. Таму ўсе такія гістарычныя падзеі з’яўляюцца для нас, нашчадкаў, нагодай, каб не толькі задумацца над будучым лёсам свайго Касцёла і ў шырэйшым сэнсе сваёй краіны, але і праяўляць разумнае дзеянне, несучы аўтэнтычнае святло Хрыстовай Добрай Навіны.

## Дзякуем і віншуем! Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаная рэдакцыя! З вялікім задавальненнем чытаем вашу газету. Вялікі дзякуй за цікавыя і пазнавальныя артыкулы. Праз вашу газету мы хочам павіншаваць **ксяндза Анджэя Бульчака** з Днём нараджэння.*

*Паважанаму ксяндзу-пробашчу Анджэю Бульчаку з нагоды Дня нараджэння складаем самыя сардэчныя пажаданні! Праз нашыя малітвы просім міласэрнага Бога, каб узнагародзіў Вас, шаноўны ксёндз Анджэй, моцным здароўем, сілай і нязгасным запалам у шчырай і адданай паслузе Богу і людзям. Няхай Маці Божая нястомна Вамі апякуецца, а Святы Дух адорвае Вас сваімі шчодрымі дарамі!*

**Парафіяне з Чашнікаў**



## Слава Иисусу Христу!

*26 августа – день рождения нашего **ксендза Андрея Кулика**.*

*Уважаемый ксёндз Андрей! Поздравляем Вас с днём рождения! Лето. Август. Чудесный, светлый день рождения. Весёлым и прекрасным пусть будет Ваше настроение. Пусть в этот день наш добрый Иисус обнимет Вас, благословит, поможет Вам исполнить планы и мечты, милосердный Бог пусть Вашей жизнью правит, чтобы идти за Ним святой дорогой веры, любви, доброты!*



*Мы благодарны за Ваше служение,*  
*Что можем ближе Бога познавать,*  
*Молиться, исповедоваться часто,*  
*Грехами чтоб не обрастать.*

*Так дай же, Боже, Вам здоровья,*  
*терпения и много сил,*  
*Чтоб Дух Святой всегда был с Вами и Вами Он руководил.*  
*Гордимся Вашей крепкой верой, на помощь уповаем слуги, Боже, Твоего,*  
*Мы молимся за Вас и очень просим: «Храни Ты, Господи, его!»*

**С уважением и благодарностью, прихожане костёла Вознесения Христова, д. Дерковщина**



## Шаноўны кс. Дзмітрый Рацько!



*Прыміце нашы сардэчныя віншаванні з Днём нараджэння! Жадаем, каб Ваша служэнне Богу і людзям прыносіла добры плён, а святарства Вашае было пад апекай Маці Божай – Маці ўсіх святароў.*

*Жадаем, каб натхненне і поспех былі вернымі спадарожнікамі ва ўсіх пачынаннях. Настойлівасці і цярпення Вам у вырашэнні штодзённых задач. Жадаем моцнага здароўя, дароў Духа Святога. Няхай Найсвяцейшае Сэрца Пана Езуса накіроўвае і дапамагае Вам у працы на Божай ніве!*

**Парафіяне касцёла бл. Юрыя Матулевіча ў Ветрыне**



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Паважанаму **ксяндзу-пробашчу Аляксандру Дулінцу** складаем самыя шчырыя і сардэчныя пажаданні з нагоды Дня нараджэння, які ён адзначае 28 жніўня!*

*Шаноўны ксёндз Аляксандр! Няхай кожны дзень праходзіць у радасці, хай сілы і запал да абвяшчэння Божага слова ніколі Вас не пакідаюць, а побач заўсёды будуць шчырыя і зычлівыя людзі! Просім, каб міласэрны Бог даў Вам моцнае здароўе, душэўны супакой, цярплівасць. Няхай Святы Дух шчодра Вас адорыць сваёй ласкай, а Найсвяцейшая Маці і святы заступнік нястомна Вамі апякуюцца! Дзякуем Вам ад усяго сэрца за Вашу мудрасць, добразычлівасць, добрыя адносіны да вернікаў!*

**З вялікай пашанай, вернікі парафіі Найсвяцейшага Сэрца Езуса з Падсвілля**

## Шаноўны ксёндз Антоній!

*Сардэчна віншуем Вас з нагоды чарговай гадавіны святарскага пасвячэння (18 жніўня). Дзякуем Пану Богу, што даў нам такога духоўнага настаўніка: шчырага, справядлівага, чулага, сціплага, сардэчнага. Любяць Вас і дзеці, і моладзь, і дарослыя, бо ўсіх Вы накіроўваеце па дарозе Божага жыцця. Цяпло свайго сэрца Вы аддаяце людзям. Шчыра жадаем Вам, паважаны ксёндз Антоній, моцнай апекі святога заступніка, шчодрых дароў Святога Духа, моцнага здароўя, светлага настрою і поспехаў у працы. Няхай добры Бог, Які паклікаў Вас да святарства, адорыць патрэбнымі ласкамі і ўзмоцніць Вас! Няхай Ваша праца на Божай ніве прыносіць шчодры плён!*



*Служэнне святара – вялікая адказнасць!*  
*Супольна крочыць з Богам па жыцці*  
*І пасвіць Божы статак часам цяжка,*  
*Але святар павінен з годнасцю ісці.*

*Ісці наперад цяжкасцям, турботам,*  
*Ісці, калі пануе ў сэрцы неспакой.*  
*Заўжды наперад крочыць разам з Богам,*  
*Надзею запаліць у велічы святой.*



*І ажывіць надзеяй тыя сэрцы,*  
*Што так шукаюць Бога кожны дзень.*  
*Тады любоў бязмежная пральецца*  
*І кожны атрымае, што хацеў.*

**З вялікай удзячнасцю і павагай, парафіяне касцёла Св. Язафата ў Канстанцінаве, Глыбоцкі р-н**



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*29 жніўня адзначае Дзень нараджэння **ксёндз Вячаслаў Пялінак**.*

*Шаноўны ксёндз Вячаслаў! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды! Жадаем моцнага здароўя, здзяйснення ўсіх мар, радасных дзён, толькі добразычлівых людзей побач.*

*Выказваем вялікую пашану і ўдзячнасць за натхнёную працу на Божай ніве. Шчыра дзякуем за добрыя словы і змястоўныя казанні, якія захапляюць мудрасцю, велічнасцю і прастатой, за прыветлівую ўсмешку, за цудоўны голас. Заўсёды адчуваецца Ваш клопат пра нас. Бачым, колькі намаганняў Вы прыкладаеце, каб наша святыня і яе наваколле радавала ўсіх парафіян і гасцей.*

*Няхай Езус Хрыстус благаслаўляе кожны Ваш дзень, а Маці Божая хай ахінае сваёй любоўю і апекай, Святы Дух хай дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае ласкамі!*

**З вялікай павагай і сардэчнай удзячнасцю, парафіяне Ідолтаўскай парафіі**

## Хвала Хрысту!

*29 жніўня адзначае дзень нараджэння **ксёндз Вячаслаў Пялінак**, які працуе ў в. Ідолта Мёрскага р-на.*

*Мы з удзячнасцю ўспамінаем ксяндза Вячаслава. Калі ён працаваў у нашай парафіі, то ладзіў пешыя і роварныя пілігрымкі, арганізоўваў пастаноўкі на рэлігійныя тэмы, сустрэчы з моладдзю, яскрава прамаўляў да нас Божае слова.*

*Шчыра віншуем Вас, паважаны а. Вячаслаў! Няхай засеянае Вамі зерне на Божай ніве прыносіць добры плён! Жадаем Божых ласкаў на кожны дзень жыцця і святарскай паслугі, апекі Маці Божай і шчодрых дароў Святога Духа, шмат сіл і трываласці ў працы, натхнення, добразычлівых людзей побач! Мы ў малітве памятаем пра Вас.*

**Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім**



## Хвала Хрысту!

*Шчыра віншуем нашага шаноўнага **ксяндза Уладзіміра Шымковіча** з Днём нараджэння, які прыпадае на 7 жніўня.*

*Жадаем Вам, дарагі пробашч, добрага здароўя, бадзёрасці і аптымізму, плёну ў працы на доўгія гады святарскага служэння!*

*Хоць нас не так шмат, як хочацца, хоць часам не ўмеем выказаць свае пачуцці прыгожымі словамі, але мы ўдзячныя Вам за пабудаваны касцёл, за рамонт даху, які знесла стыхія, за штодзённыя набажэнствы, за навуку, за Вашую цярплівасць.*

**З вялікай павагай і малітвай, вернікі парафіі Маці Божай Фацімскай у Дуброўне**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*7 жніўня наш зямляк **ксёндз Уладзімір Шымковіч**, які служыць у Дуброўне, адзначае Дзень нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз Уладзімір! Жадаем Вам моцнага здароўя, вялікага шчасця, радасці, сонечных дзён, плённай працы, здзяйснення мараў і задумак, толькі добрых людзей на жыццёвым шляху, апекі Маці Божай ва ўсіх справах, Божага блаславення на доўгія гады жыцця!*

**Вернікі лынтупскага касцёла, Пастаўскі р-н**

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Дасылаем словы віншавання, вялікай удзячнасці, радасці і гонару **ксяндзу Уладзіміру Шымковічу**, які працаваў у нашай парафіі, з нагоды Дня нараджэння. Мы ўдзячныя Богу за такога цудоўнага святара, які вельмі шмат зрабіў для нашага касцёла.*

*Ад усяго сэрца жадаем Вам, паважаны ксёндз Уладзімір, моцнага здароўя, душэўнага спакою, аптымізму, неабходных сіл для рэалізацыі Вашых планаў, апекі НПМ, дароў Святога Духа і патрэбных Божых ласкаў! Жадаем, каб на Вашым шляху сустрэлася шмат адкрытых і шчырых людскіх сэрцаў. Дзякуем Вам за працу, за шчырасць і адданасць!*

**З павагай, парафіяне касцёла Маці Божай Шкаплернай з в. Ідолта**



## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*31 жніўня наш былы **святар Уладзімір Заянчкоўскі** будзе адзначаць Дзень нараджэння.*

*Шаноўны ксёндз Уладзімір! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды і жадаем моцнага здароўя, шчодрых Божых ласкаў на кожны дзень жыцця! Дзякуем Вам за ахвярную працу на Божай ніве, за дабрыню, за чулае сэрца, за павагу да кожнага з нас, за пазітыўны настрой, які Вы стваралі ў нас на працягу многіх гадоў. Няхай Маці Божая абараняе і падтрымлівае Вас, а добры Бог хай дапамагае ў нялёгкай працы.*

**Вернікі з капліцы святых Пятра і Паўла, в.Казлоўшчына (Пастаўскі р-н)**

## Паважаны ксёндз Уладзімір Заянчкоўскі!

*Ад усяго сэрца віншуем Вас з Днём нараджэння! Жадаем Вам моцнага здароўя, аптымізму, цудоўнага настрою, поспехаў у Вашай нялёгкай працы, здзяйснення мар і надзей! Няхай Усемагутны Бог дапамагае Вам у кожную хвіліну, а Маці Божая хай заўсёды падтрымлівае і абараняе Вас!*

*Мы шчыра дзякуем Пану Богу за тыя гады, што Вы працавалі ў нашай парафіі. Дзякуем за Ваша добрае сэрца і шчырую малітву. Заўсёды будзем Вас успамінаць, чакаць сустрэчы і маліцца за Вас!*

**З удзячнасцю і павагай, вернікі парафіі Святога Юзафа Рамесніка ў аг. Парыж Пастаўскага р-на**

# Зачем нужны иконы для свадьбы?

**На курсах, которые служат подготовкой к венчанию, у будущих молодожёнов есть прекрасная возможность непосредственного общения со священником. Каждый настоятель или викарий очень ценит время, на протяжении которого раз в неделю-две может обсуждать с будущими супругами истины веры, заповеди Божьи и другие важные темы, рассматривая их через призму семейной жизни.**



**кс. Андрей Зноско**, *настоятель прихода Божьего Милосердия в Лиде*

Молодые люди раскрепощаются, становятся смелее, сокращается дистанция, отделяющая их от ксендза, которого видят обычно только с другой стороны алтаря. Неудивительно, что в преддверии свадьбы у будущих жениха и невесты возникает множество вопросов.

## От народных традиций к литургическим нормам

«Нам сказали, что нужно купить какие-то иконы на свадьбу, что нам с ними делать?» – зачастую примерно такой вопрос в различных вариациях слышат священники от будущих супругов, а также от их родителей, озабоченных тем, чтобы на свадьбе их чад всё было «как у людей». Хочется сразу же пояснить, что многое из того, что происходит во время свадьбы и венчания, вовсе не урегулировано нормами канонов и какими-то строгими правилами. Безусловно, то, что относится к канонической форме заключения церковного брака, находится под неусыпным контролем священника, который просто не позволит сделать неправильно то, что может повлиять на действительность брака. Это, прежде всего, принятие от молодожёнов супружеской клятвы, в которой они выражают свою добрую волю на заключение брака. В то же время, существует масса обычаев, которые можно смело назвать народными, которые делают свадебные обряды торжественнее, выразительнее, да и просто красивее.

Одним из таких обрядов являются проводы жениха и невесты из «родительских гнёзд». Жених в сопровождении друзей и родственников выезжает из дома, чтобы, получив свою возлюбленную из рук её родителей, ехать в костёл заключать законный брак. Так называемые «проводы жениха» и «выкуп невесты» сопровождаются весельми шутками, забавами, конкурсами, кто во что горазд. Иной раз, может дойти и до не совсем пристойных ситуаций, когда самих молодых или свидетелей, сватов, родителей заставляют употреблять спиртное, не смотря на то, что все ещё только едут на венчание и скоро нужно будет находиться в святом месте. Кто-то может спросить: при чём здесь иконы? Они как раз-то и служат переходу от шуточных забав в семейном кругу к торжественным обрядам таинства супружества.

**«Иной раз, может дойти и до не совсем пристойных ситуаций, когда самих молодых или свидетелей, сватов, родителей заставляют употреблять спиртное, не смотря на то, что все ещё только едут на венчание и скоро нужно будет находиться в святом месте.»**



## Родительское благословение

Когда отзвучат и смолкнут шутки и смех, наступает момент родительского благословения. Было бы прекрасно, если бы такое благословение имело место и в доме жениха, и в доме невесты. Родители тёплыми словами напутствуют жениха, напоминая, что он выезжает из дома верующих людей, любящих Бога и живущих с памятью о Его заповедях, за избранной женой и принимает на себя радость и обязанность быть верным мужем и заботливым отцом, так, как его учили родители и Церковь. Считаю, что для родителей жениха было бы правильным подарить ему образ Пресвятого Сердца Иисуса, Который пришёл служить и жертвовать Себя, что и символизирует открытое, наполненное огнём любви к людям сердце. В обещаниях, которые Господь Иисус дал верующим в XVII столетии в явлениях св. Маргарите Марии, сказано, что Он ниспошлёт щедрое благословение тому дому, в котором будет находиться и почитаться образ Пресвятого Сердца Иисуса. А ведь молодой человек затем и выезжает из родительского дома, чтобы основать свой дом, единство судеб со своей женою. Думаю, что родителям невесты было бы уместно преподнести своей дочери и её наречённому образ Пресвятой Семьи из Назарета, на котором изображены юный Спаситель со своей Матерью и опекуном, святым Иосифом. В словах напутствия родители будущей жены и матери могут сказать о том главном, в чём убедились на собственном жизненном опыте: что дом, в котором живёт Бог, будет домом, построенным на скале, и никакие жизненные невзгоды не одолеют семью, которая уповает на Всевышнего.

После напутствия настает момент краткой совместной молитвы родителей с уже такими взрослыми детьми и присутствующими гостями. Хорошо было бы воспользоваться словами простейших и прекраснейших молитв «Отче наш» и «Радуйся, Мария», которым сегодняшних молодожёнов учили с колыбели. Затем родители жениха и невесты имеют право в своих домах благословить будущих супругов заранее освящёнными в костёле образами, перекрестив ими ставших на колени детей. Теперь можно ехать к алтарю. Отныне эти две иконы станут первыми реликвиями молодожёнов, займут своё почётное место под каждой крышей, где бы ни нашла для себя пристанище молодая семья.



# Чаму святар не пахрысціў дзіця?

*“Па якой прычыне святар адмовіўся пахрысціць дзіця?”*
*Ірына*

**На пытанне адказвае айцец Андрэй Сідаровіч MIC:**

– Адказваючы на Вашае пытанне, можна прывесці толькі прыкладны спіс прычын:

- Вы звярнуліся не да свайго пробашча, і Вас накіравалі ў Вашую парафію;
- святару выразна бачна, што Вы просіце пра хрост не па рэлігійных прычынах;
- хросныя не адпавядаюць нормам Кодэкса Кананічнага Права Касцёла;
- Вы просіце, каб хрост адбыўся ў літургічна непрыдатным для гэтага часе;
- час да планаванай Вамі даты хросту не дазваляе правесці адпаведныя катэхезы.

Па вялікім рахунку, для хросту патрэбная згода прынамсі аднаго з бацькоў і надзея, што дзіця будзе выхаванае ў каталіцкай веры. Святарскі досвед падказвае, што праблемы ўзнікаюць менавіта з надзеяй. Нам падаецца, калі мы ўжо прыйшлі і выказалі сваю згоду на хрост дзіцяці, знайшлі хросных, то не павінна быць пытанняў. А святар назойліва задае пытанні, нібыта парушаючы таямніцы нашага сямейнага жыцця. А ці бралі Вы шлюб? Ці практыкуеце Вы веру? Чаму я Вас не бачу ў храме ў нядзелю? Адмоўныя адказы з Вашага боку могуць даць нагоду сумнявацца ў надзеі на каталіцкае выхаванне дзіцяці.

Святар мае і абавязак, і правa пра ўсё гэта з Вамі паразмаўляць і вызначыць адпаведную падрыхтоўку да хросту. Вельмі часта мы незадаволеныя такімі паводзінамі святара, але ён распарадчык (ахоўнік) сакрамантаў, а не прадавец тавару, які не цікавіцца паходжаннем грошай за тавар.

# Ці можна падманваць дзеля дабра?

*“Ці можна падманваць, хочучы дабра для сябе або для іншых?”*
*Вераніка*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Людскі ўчынак складаецца з некалькіх элементаў. Гэта мэта, якая ставіцца, сродкі для дасягнення дадзенай мэты, непасрэдна дзеянне і вынік, які чакаецца.

З маральнага пункту гледжання ўчынак можа быць добрым толькі тады, калі ўсе гэтыя складовыя часткі з'яўляюцца добрымі. Калі хоць адзін пункт будзе негатыўным, увесь учынак становіцца маральна дрэнным. Немагчыма зрабіць дабро кепскімі сродкамі. Такім чынам, паколькі хлусня з'яўляецца злом, адпаведна і ўчынак гэты будзе дрэнным, нават калі ён мае добрую мэту. Мэта не апраўдвае сродкі.



# ПАЗНАВАЙКА

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл

## Што думае Папа пра дзяцей?

Наступную думку часта выказвае Папа Францішак пра дзяцей. Даведайся яе, разгадаўшы рэбус. З кожнага малюнка вазьмі толькі першую літару слова. На месцы шматкроп'я ўстаў тое, што атрымалася.



Дзеці – ___________ для чалавецтва і Касцёла.

## Даведайся, каго заклікае любіць Папа?

У адным са сваіх выступленняў, Папа Фрнанцішак звярнуўся да хлопчыкаў і дзяўчынак з просьбай вучыцца любіць. Каго заклікаў любіць Папа даведайся, выпісаўшы літары толькі з кружочкаў.






Адказ запішы ___________________________

## Даведайся, што ў дзяцінстве любіў Папа Францішак?

Папа Францішак вельмі любіў у дзяцінстве гуляць у мяч, прыслугоўваць каля алтара. Што яшчэ любіў рабіць Папа Рымскі,калі быў маленькім, даведаешся, калі ў правільным парадку суаднясеш літары і лічбы, змешчаныя на малюнку. Атрыманае запішы.

___________________________




## Дапамажы Папу забіць гол!

Папа Францішак вельмі любіць футбол. Дапамажы яму забіць гол.



## Якія ўчынкі міласэрнасці ты выконваеш?

Нядаўна Папа наведаў дзіцячы шпіталь у Кракаве, дзе сустрэўся з маленькімі хворымі пацыентамі. Знаходзячыся там, Святы Айцец гаварыў пра міласэрнасць. Разам з бацькамі паразважай, што такое міласэрныя ўчынкі. Якія ўчынкі міласэрнасці ты выконваеш? У пустых рамачках напішы па аднаму здзейсненаму табой міласэрнаму ўчынку.



## Намалюй усмешку для Папы

Нядаўна Папа Францішак быў адзначаны міжнародным дзіцячым Ордэнам Усмешкі. Папа заўсёды дорыць хлопчыкам і дзяўчынкам усмешку. І ты таксама намалюй прыгожую ўсмешку для Папы.



## Памаліся "Малітвай пяці пальцаў"

Вельмі папулярнай малітвай сярод дзетак і дарослых з'яўляецца "Малітва пяці пальцаў", якую напісаў Папа Францішак. Калі ты глядзіш на сваю далонь, можаш маліцца за маму і тату, бабулю і дзядулю, настаўнікаў, лекараў, пацыентаў і іншых людзей, якія патрабуюць тваёй малітвы. Памаліся гэтай малітвай разам з бацькамі.

**Вялікі палец** з'яўляецца тым пальцам, які размешчаны бліжэйшы да цябе. Пачні сваю малітву, молячыся за тых, хто блізкі табе. Гэта тыя людзі, якіх табе лягчэй за ўсё ўспомніць. Маліцца за тых, каго любім з'яўляецца нашым "салодкім абавязкам".

**Суседні палец** - паказальны. Памаліся за тых, хто займаецца навучаннем, выхаваннем і лечыць.Гэтыя людзі патрабуюць падтрымкі і мудрасці, каб весці іншых у адпаведным кірунку. Хай яны заўсёды прысутнічаюць у тваіх малітвах.

**Сярэдні палец** самы высокі сярод пальцаў. Ён нагадвае нам пра нашых кіраўнікоў, лідэраў, пра тых , хто знаходзіцца пры ўладзе. Гэтыя людзі маюць патрэбу ў Божым промысле.

**Наступны палец - безыменны.** Цікава, што ён з'яўляецца нашым самым слабым пальцам . Ён нагадвае нам, што варта маліцца за слабых, хворых, засмучаных, а таксама тых, хто абцяжараны праблемамі. Гэтыя людзі маюць патрэбу ў тваёй малітве.

**У завяршэнне - мезенец**, найменшы з усіх пальцаў. Ён павінен нагадваць аб малітве за сябе самога. Калі завершыш маліцца за чатыры згаданыя вышэй групы людзей, то зможаш паглядзець на ўласныя патрэбы з іншага пункту гледжання і будзеш гатовы памаліцца за сябе самога ў больш праўдзівы і эфектыўны спосаб. Амэн

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Ірына Грэйць***



# Святы падрэ Піа

## 23 верасня

**Падрэ Піа – гэта святы XX стагоддзя, які вярнуў Касцёл у часы біблейскіх цудаў.**

**а. Андрэй Сідаровіч**, *марыянін, Расіца*

Здаецца, няма такіх звышнатуральных з'яў, якія б не праявіліся ў жыцці капуцына з Сан-Джавані Ратонда. Аздараўленне хворых, дар чытання сэрцаў, водар святасці, білакацыя, левітацыя, стыгматы... Нават адной з гэтых з'яў дастаткова, каб стварыць трылер пра айца Піа.

Людзям, якія сустракалі айца Піа, найбольшую карысць прыносілі не цуды, а яго паслуга спаведніка і духоўнага кіраўніка. Гэта сапраўды было адным з найбольш улюбёных служэнняў святога капуцына, якому ён прысвячаў значную частку дня. Часта яго паслуга доўжылася нават 19 гадзін у суткі, і толькі клопаты са здароўем прымусілі скарaціць час прабывання ў спавядальні.

У нейкім сэнсе святога Піа можна назваць мучанікам канфесіянала. Спавядаючы, святы карыстаўся дадзенай яму Богам ласкай бачыць людскія сэрцы. Тым, хто баяўся вызнаваць свае правіны, ён з лагоднасцю дапамагаў гэта зрабіць, называючы іх грахі. Тых, хто свае грахі затойваў, ён мог выгнаць з канфесіянала або прыстрашыць пеклам. Распавядаюць, што чалавека, які спавядаўся без жалю за грахі, айцец Піа, выйшаўшы з канфесіянала, прагнаў свaёй манаскай вяроўкай, якой падпяразваў габіт. Кожная душа, кожны чалавек былі для яго важныя. Святы лічыў сваёй жыццёвай місіяй барацьбу з сатаной за людскія душы – праз сваё цярпенне, малітву і споведзь.

Падрэ Піа верыў у моц сакраманту паяднання, і людзі таксама верылі, што адбытая ў яго споведзь нясе ім збаўленне. Духоўны досвед святога падказваў, што трэба спавядацца раз на тыдзень. Ён казаў, што нават у пакоі, які не выкарыстоўваецца, збіраецца пыл, і яго трэба прыбіраць. Споведзь была для святога айца Піа Божай прыладай для ўпарадкавання чалавечага жыцця.

Слава чалавека са звышнатуральнымі здольнасцямі прыцягвала і тых людзей, якія сумняваліся ў існаванні іншага, па-за матэрыяльнага жыцця. Некалькі вядомых на ўсю Італію атэістаў ездзілі паглядзець на айца Піа і перажылі сапраўднае глыбокае навяртанне, размаўляючы з ім. Можна сказаць, што розныя цудоўныя з'явы былі для чалавека магчымасцю сустрэцца з цудам міласэрнасці Бога.

У Год Міласэрнасці Касцёл абраў святога айца Піа адным з апекуноў спаведнікоў.

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**21 жніўня 2016 г.**

***Лк 13, 22-30***

Варта спытацца ў Езуса: "Ці буду я збаўлены?" І варта таксама ўважліва выслухаць, што Ён адкажа. Чытаем Яго падказку: "Старайцеся ўвайсці праз цесную браму. Не трэба спадзявацца на так званае "знаёмства" з Богам, бо можна незаўважна пакінуць дарогу справядлівасці". Знаёмства са Справядлівым, Добрым і Міласэрным Богам, Які памёр за нас на крыжы, вымагае ад нас, каб мы імкнуліся быць да Яго падобнымі. Гэта значыць, што я – Божае дзіця, Яго сябра – не магу быць несправядлівым, бо інакш адракаюся ад Яго, крывадушнічаю, хачу Ім пакарыстацца і руйную тое, што Ён Сваёю смерцю і змёртвыхпаўстаннем пабудаваў. Аднак калі вярнуся на дарогу справядлівасці, Ён у сваёй міласэрнасці адчыніць перада мною неба. Хрысціянская справядлівасць – гэта любіць Бога з усіх сіл, усім сэрцам, усім разуменнем і ўсёй душой, як Ён мяне любіць. І любіць бліжняга як самога сябе, бо усё, што раблю для іншых – раблю для Хрыста.

*– Ці памятаю, што Бог хоча майго вечнага збаўлення?*

*– Ці веру, што Ён можа мяне пераманіць, прабачыць і зрабіць гатовым ісці да неба?*

*– Ці супрацоўнічаю я з Яго ласкай?*

*– Ці люблю Яго?*

*– Ці адказваю любоўю на Яго бязмежную любоў?*

*– У чым гэта праяўляецца?*

*– Ці люблю бліжняга?*

*– Ці ахвярую людзям тое, што павінен па абавязку любові?*

*– Ці з'яўляецца мой муж (мая жонка) галоўнай любоўю майго жыцця?*

*– Ці хачу, каб ён (яна) былі шчаслівымі?*

*– Ці малюся і ці шукаю выйсця, калі паміж намі праблемы, непаразуменні і іншыя беды?*

*– Ці выконваю, што прысягаў (прысягала) сужэнцы (сужэнцу) у час шлюбу?*

*– Ці адорваем разам нашых дзяцей тым, на што Бог даў ім права?*

*– Ці даём жыццё сваім дзецям?*

*– Ці даём выхаванне сваім дзецям?*

*– Ці перадаём веру сваім дзецям?*

**28 жніўня 2016 г.**

***Лк 14, 1, 7-14***

Жыццё хрысціяніна не можа выглядаць такім, як жыццё чалавека гэтага свету. Мы ўсведамляем, што ў свеце паміж людзьмі ўвесь час ідзе барацьба за лепшае месца пад сонцам. Жаданне дамінаваць над іншымі, ісці па галовах, каб дабіцца выгоднага месца за сталом жыцця, авалодваe людзьмі. Таксама мы бачым у свеце шмат "халяўшчыкаў" і шмат тых, хто з усяго шукае карысці. Калі маеш маёмасць, то трэба ўмець разважліва ёй карыстацца. Прыстасоўваючыся да жыцця ў свеце, нам трэба напаўняць яго новай мудрасцю, мудрасцю Бога: сціпласцю, павагай да іншых, міласэрнасцю да хворых, слабых, бедных, ахвярнасцю, спадзеючыся на вечную ўзнагароду ў небе. Хрысціянін разважліва распараджаецца сваім жыццём, каб не рабіць на зямлі праблемаў іншым і каб назбіраць для вечнасці добрых учынкаў і багацця душы.

*– Ці адказна я стаўлюся да абавязкаў, звязаных са штодзённасцю?*

*– Ці добра працую і ці разважліва карыстаюся матэрыяльнымі каштоўнасцямі?*

*– Ці будую добрыя і здаровыя адносіны з людзьмі?*

*– Ці сціплы я?*

*– Ці не ганарлівы?*

*– Ці паважаю сябе і іншых?*

*– Ці часам мае адносіны да людзей не нагадваюць адносіны "зухаватых" гэтага свету?*

*– Ці стараюся я сваімі адносінамі да людзей наследаваць Езуса?*

*– Ці не прывязаны я празмерна да матэрыяльных каштоўнасцяў?*

*– Ці веру, што ахвярнасць мае вартасць у вечнасці перад Богам?*

*– Ці ўмею разважліва дапамагаць?*

*– Ці не страчваю сваю дабрыню, калі не сустракаюся з удзячнасцю і захапленнем людзей?*

*– Калі і як апошні раз я бескарысліва дапамог, спадзеючыся толькі на вечную ўзнагароду ў небе?*

**4 верасня 2016 г.**

***Лк 14, 25-33***

Адносіны з Богам – гэта адносіны любові. І калі мы хочам з'яўляцца Яго вучнямі, то павінны быць гатовымі ўсё іншае лічыць другасным або ўвогуле не прысутным у нашым жыцці. Мужчына, ажаніўшыся і пакінуўшы бацькоўскую хату, можа і павінен дапамагаць сваім бацькам, але заўсёды дастасоўваючы гэту дапамогу да сужэнскага ладу, да сваёй новай сям'і. Калі мы выбіраем Бога Панам нашага жыцця, павінны зразумець, што ўсё іншае, нават добрае і прыгожае, з'яўляецца другасным. Усё добрае ў нашым жыцці – гэта Божы дар. Бог не будзе патрабаваць ад нас чагосьці неразумнага. Аднак ніхто і нішто не павінна заняць першага месца ў нашым жыцці. Трэба сачыць за сабой, каб у жыццёвай штодзённасці мы не занялі чымсьці іншым месца Бога. Бо станем як соль, што страціла свой смак.

*– Ці цвёрда і сур'ёзна я выбраў Бога Панам свайго жыцця?*

*– Ці ўмею іншыя справы падпарадкоўваць Яго волі?*

*– Ці ведаю Божую навуку?*

*– Ці шукаю тлумачэнняў, калі не ведаю, як сумясціць жыццёвыя патрэбы і Божую волю?*

*– Ці размаўляю пра гэта са сваім духоўнікам?*

*– Якія справы найчасцей хочуць адцягнуць мяне ад жыцця па-Божаму?*

*– Што зрабіць, каб з імі справіцца?*

*– Да каго звярнуся па дапамогу, па падтрымку?*

*– Ці ёсць ува мне любоў, дабрыня, міласэрнасць, цярпенне, мудрасць паводле Божага вобразу?*

**11 верасня 2016 г.**

***Лк 15, 1-10***

Бог шукае кожнага грэшніка. Да канца. Ён як Добры Айцец і ўважлівая маці хоча шчасця кожнага з нас, ведае нас, як маці, памятае нас, клапоціцца пра нас і нас шукае. І радуецца нашаму шчасцю. Мы – браты ў веры і Божыя дзеці – павінны так ставіцца да бедных грэшнікаў, якія адышлі ад Бога. Мы заўсёды павінны бачыць свой грэх ці недахоп нашай любові і з надзеяй глядзець на Бога, Які падымае нас з нашай бяды. І павінны з радасцю кідацца ў абдымкі Добрага Пастыра, Які з радасцю нас знаходзіць.

*– Як я стаўлюся да грэшнікаў?*

*– Ці не пагарджаю імі, узвышаючы сябе?*

*– Ці спачуваю грэшнікам, якія апынуліся ў абдымках смерці?*

*– Ці дапамагаю ім знайсці Бога? Словам? Прыкладам жыцця? Малітвай? Міласэрнасцю?*

*– Ці ўсведамляю я свае недасканаласці і грахі?*

*– Ці дазваляю Богу выратаваць сябе?*

*– Ці навяртаюся?*

*– Што раблю, каб больш не трапіць у тую ж самую бяду?*

*– Ці спавядаюся з радасцю і надзеяй?*

*– Што раблю, каб мая споведзь была лепшай?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк***
*www. lyntupy.by*

# Навошта будаваць дарагія і шыкоўныя касцёлы?



*„Некаторыя знаёмыя кажуць мне, што не трэба дарага і шыкоўна аздабляць святыні. Лепш пабудаваць нешта больш простае, а грошы аддаць бедным. Я з імі не пагаджаюся. Падкажыце, што можна ім адказваць і якія правільныя аргументы прыводзіць?"*
*Павел*

**На пытанне адказвае а. Зміцер Чарнель CSsR:**

– Першы вядомы ў гісторыі храм Госпада быў пабудаваны царом Саламонам. Яго падрабязнае апісанне прыводзіцца ў 3-й кнізе Царстваў. Сярод іншага чытаем: "І абклаў Саламон храм усярэдзіне чыстым золатам, і працягнуў залатыя ланцугі перад давірам, і абклаў яго золатам. Увесь храм ён абклаў золатам, увесь храм да канца, і ўвесь ахвярнік, які перад давірам, абклаў золатам" (3 Цар. 6, 21-22). Аздабленне храма было вельмі багатым і шыкоўным, гэтак жа, як каштоўным было і храмавае начынне. Гэта было знешнім выражэннем стаўлення чалавека да Бога: "Сапраўды, ці ж Богу жыць на зямлі? Неба і неба нябёсаў не ўмяшчаюць Цябе, тым меней гэты храм, які я пабудаваў", – гаворыць цар Саламон (3 Цар. 8, 27).

Храм з'яўляецца месцам асаблівай прысутнасці Бога на зямлі. Адпаведна рознымі даступнымі чалавеку сродкамі святое месца аздабляецца асаблівым чынам, каб паказаць яго выключнасць у гэтым свеце. Храм – гэта месца, дзе Неба адкрываецца на зямлі. Госпад адказвае Саламону на яго малітву: "Я пачуў малітву тваю і просьбу тваю, чаго ты прасіў у Мяне. Я асвяціў гэты храм, які ты збудаваў, каб быць імені Майму там вечна; і будуць вочы Мае і сэрца Маё там ва ўсе дні" (3 Цар. 9, 3).

У наш час, час Новага Запавету, храм набыў яшчэ глыбейшае значэнне. Сёння храм – гэта месца не проста асаблівай духоўнай прысутнасці Бога, гэта дом Хрыста, у якім наш Збаўца прабывае не толькі духоўна, але і фізічна – у Сакраманце Эўхарыстыі. Храм стаў домам Божым у літаральным сэнсе. Св. Альфонс Лігуоры, раздумваючы над гэтай таямніцай, пісаў: "Госпадзе, Езу Хрысце! Любоў да людзей трымае Цябе на алтарах. Тут Ты, поўны міласэрнасці і дабрыні, знаходзішся дзень і ноч, чакаеш іх, клічаш іх і прымаеш усіх, хто прыходзіць Цябе наведаць".

У Евангеллі маем прыклад ахвярнага выражэння сваёй любові да Збаўцы: "Марыя ж узяла фунт каштоўнага нардавага алею і намасціла ногі Яму, і абцёрла сваімі валасамі Яговыя ногі, а пах алею напоўніў увесь дом" (Ян. 12, 3). З рацыянальнага пункту гледжання гэта было непатрэбным марнатраўствам. Таму цалкам лагічна апостал Юда паўтарае аргумент вашых знаёмых, зігданы ў пытанні: "Чаму не прадалі гэтага алею за трыста дынараў і не раздалі ўбогім?" (Ян. 12, 5). Аднак Сам Езус на гэты аргумент дае адказ: "Убогія паміж сябе заўсёды маеце, а Мяне – не заўсёды" (Ян. 12, 8).

Падобным чынам і з храмамі: бедныя заўсёды будуць у свеце, храм жа будуецца раз і назаўжды. Заходзячы ў храм, мы пакідаем свет гэты і ўваходзім у свет Божы, дзе "вока не аглядала, ані вуха не чула, ані сэрца чалавечае не прадчувала, што Бог падрыхтаваў тым, каторыя любяць Яго" (1 Кар. 2, 10).

## Ахвяруй для газеты "Каталіцкі Веснік", не выходзячы з дому!

**Дарагія сябры!**

**З'явілася новая магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!**

**Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Дасланьць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:**

**1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*375295105172*2#**

**2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.**

**3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:**
***363*[код пацвярджэння]#**

**4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.**

**Увага!**

**Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.**

**Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.**

**Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!**

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***



## Падпішыцеся на "Каталіцкі Веснік"!

**Кошт падпіскі:**
**на месяц** – 89 капеек (8900 рублёў),
**на 3 месяцы** – 2 рублі 67 капеек (26700 рублёў),
**на 4 месяцы** – 3 рублі 56 капеек (35600 рублёў).

Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні "Белпошты".

**Наш падпісны індэкс – 63783**

**Дарагія браты і сёстры! Падпісваючыся на нашу газету, вы дапамагаеце нам абвяшчаць Евангелле, расказваць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.**

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***


Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 4946

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3200 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 17.08.2016 г. у 09.31



**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by



ISSN 2224-9621


Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь